№ 6 (939) 10 лютага 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Што будзе з Зямлёй пасля нас?



Маладая сям'я адмовілася ад хіміі і пластыку ў побыце: вушных палачак, пракладак, пакетаў. **Старонка 12.**

## Не ўсё ў жыцці апошні раз!

Дык падпісвайся на «Нашу Ніву». **Старонка 2.**

# Меркель: Мы ў жаху ад удараў Расіі ў Сірыі

Данбас — гэта кветачкі ў параўнанні з тым, што робіцца ў Сірыі. Параўнайце Данецк з Алепа.

«У апошнія дні мы былі не проста шакаваныя, мы былі ў жаху ад таго, якія пакуты дзясяткам тысяч людзей прынеслі бамбардзіроўкі, у першую чаргу з боку Расіі», — заявіла канцлерка Германіі Ангела Меркель на супольнай прэсканферэнцыі з прэм'ер-міністрам Турцыі Ахметам Давутаглу.

Рэч у тым, што Расія бамбіць Сірыю далёка не высокадакладнай зброяй. Валяць бомбы дзень і ноч, гінуць не толькі паўстанцы, але і простыя людзі. Зрэшты, хто на вайне разбірае?

Заява Меркель — важны сігнал з боку Еўропы. Вайна адгукаецца на нашым кантыненце хвалямі ўцекачоў.

Каля 4 мільёнаў чалавек збеглі з Сірыі ў іншыя краіны. З іх амаль 1,5 мільёна дабраліся да Еўрасаюза.

Новая плынь уцекачоў выплеснулася на межы Турцыі ў апошнія дні. Рэч у тым, што пасля чатырох месяцаў бамбардзіровак расійскай авіяцыі арміі Асада ўдалося дасягнуць важнай стратэгічнай мэты. Як перадаюць інфармацыйныя агенцтвы, за апошнія тры дні былі перарэзаныя дарогі, што вядуць на паўночны захад горада Алепа. У аперацыі галоўную ролю адыграў іранскі экспедыцыйны корпус.

Алепа — найбольшы горад Сірыі. Да грамадзянскай вайны гэта была камерцыйная сталіца краіны, два мільёны людзей, як Мінск.

**Працяг на старонцы 3.**

Сірыя пасля расійскіх бамбёжак выглядае як другая Чачня. Але яна можа стаць і другім Афганістанам, бо адзінаверцы-мусульмане гатовы ўмяшацца.



Прыгарады Алепа пасля расійскіх бамбёжак.

## Лукашэнка прывёз з Сочы толькі абяцанні?

Цэлы тыдзень кіраўнік Беларусі катаўся на лыжах на сочынскіх схілах. У мінулую пятніцу ён сустрэўся з Уладзімірам Пуціным.

«Рады вас бачыць, нам ёсць пра што пагаварыць», — вітаў Пуцін беларускага госця. Астатняя інфармацыя была зусім скупой, пра што ж рэальна гаварылі кіраўнікі дзяржаваў, можна толькі здагадвацца.

Адносіны Беларусі і Расіі апошняга часу перажываюць перыяд стрыманасці. Бакі па-ранейшаму дэкларуюць вечную любоў, але ўзамен Беларусь па-ранейшаму хоча фінансавай падтрымкі ад Расіі, хоць ужо забылася, калі апошні раз атрымлівала яе. Магчыма, гэта наступства таго, што Лукашэнка так і не падпісвае пагадненне аб расійскай вайсковай базе ў Бабруйску. Расійскія аналітыкі ўжо лічылі гэтую справу вырашанай, як перад самымі выбарамі-2015 Лукашэнка заявіў, што не бачыць мэтазгоднасці ў яе размяшчэнні.

**«Мы будзем рэалізоўваць іх [МВФ] прапановы, як бы ні было складана»**

З'явілася яшчэ адна праблема: Беларусь перастала пастаўляць у Расію бензін. Віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка сказаў, што цэны ў Расіі настолькі нізкія, што такія пастаўкі ішлі б Беларусі ў страту. У расійскім урадзе такія навіны ўспрынялі варожа. Маўляў, з нашай нафты гоніце бензін, а яшчэ адмаўляецеся прадаваць яго ў Расію.

**Працяг на старонцы 3.**

## Аляксандр Косінец

Хірург, які зрабіў дзяржаўную кар'еру. **Старонка 4.**

## Дом за $500 тысяч

Топ самых дарагіх катэджаў Мінска ў 2015. **Старонка 6.**

## Кастусь і Марыся: гісторыя кахання

Піша гісторык Васіль Герасімчык. **Старонка 14.**

## Святы Валянцін

Жыў-быў адзін чалавек… Піша Алесь Ліпай. **Старонка 15.**

# Даляр дабраўся да 22 000 рублёў, еўра — 25 000

На таргах 9 лютага ў Мінску даляр ЗША падаражэў на 299 рублёў да 21 959 беларускіх.
Еўра падаражэў на 421 рубель да 24 561.
Расійскі рубель знізіўся на 1,6 да 280.
У банках даляры прадаюць больш чым за 22 000, еўра — за 25 000.

# Што такое таксі Uber і як на ім зарабляць

У Мінску з'явіўся сэрвіс таксі *Uber*. Старыя таксісты яго баяцца, затое моладзь актыўна выкарыстоўвае: адны спадзяюцца зарабляць, другія ездзяць танней.

*Uber* — міжнародная кампанія, якая стварыла аднайменны дадатак для мабільных тэлефонаў для выкліку і аплаты таксі або прыватных кіроўцаў. Па сутнасці, гэта сацыяльная сетка, што звязвае кліента з кіроўцамі, якія знаходзяцца побач. Кожны чалавек можа паглядзець профіль кіроўцы, марку яго машыны і рэйтынг, які выставілі кліенты.

Кожны можа стаць кліентам *Uber* або кіроўцам, які на *Uber* зарабляе. Сэрвіс забірае ад кожнай паездкі 75%, астатняе — у кішэню кіроўцу.

Аплата робіцца толькі банкаўскай карткай.

Старэйшаму пакаленню гэта здаецца складаным. Яны прывыклі выклікаць таксі праз тэлефон. А вось моладзі новы спосаб падзарабіць падабаецца. Едзе чалавек на работу — раз, падхапіў кагосьці, каму трэба дабрацца ў той жа бок. Вось і адбіў 20 тысяч на бензін.

Астатняе робіць інтэрнэт. Вашае месцазнаходжанне вызначаецца аўтаматычна. Чэк прыходзіць на электронную пошту.

Хоць у Беларусі *Uber* пакуль працуе толькі ў рэжыме звычайнай службы таксі, толькі з заказам анлайн і разлікам праз інтэрнэт, таксісты непакояцца: ім прыйдзецца скінуць цэны!

**Мікіта Недаверкаў**




Тэхналогіі

# Новы вірус крадзе перапіску і запісвае званкі ў Skype

Даследчыкі з кампаніі *Palo Alto Networks* выявілі вірус T9000, які здольны запісваць размовы ў *Skype* і «красці» дакументы. Пра гэта эксперты расказалі на сваім сайце.

Выяўлены шкоднік T9000 уяўляе сабой мадыфікацыю T5000, распаўсюджанага ў 2013—2014. Заражэнне ім адбываецца праз фішынгавыя лісты з прымацаванымі файламі фармату RTF.

Адзін з модуляў віруса накіраваны на збор інфармацыі са *Skype*. Пры запуску ён выводзіць паведамленне «*explorer.exe wants to use Skype*», прымушаючы карыстальніка пагадзіцца на сачэнне. Калі дазвол атрыманы, ён пачынае капіяваць перапіску, а таксама аўдыё- і відэаразмовы.

Таксама вірус можа «красці» з камп'ютара файлы ў фармаце doc, ppt, xls, docx, pptx і xlsx, у тым ліку са здымных носьбітаў. У дадатак траян дае зламыснікам магчымасць перадаваць на камп'ютар каманды на стварэнне, перасоўванне і выдаленне файлаў і папак, а таксама капіяванне змесціва буфера абмену.

Даследчыкі адзначылі, што вірус выкарыстоўвае мноства выкрутаў, каб антывірусы не маглі яго распазнаць. Эксперты не паведамілі, хто стаіць за стварэннем траяна.

**42.tut.by**

Ганьба


АФІЦЫЙНАЕ НОБЕЛЕЎСКАЕ ФОТА СВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ. NOBEL MEDIA

# Галоўная кніжная выстава Беларусі пройдзе без удзелу Святланы Алексіевіч

XIII Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш пройдзе без удзелу Святланы Алексіевіч. Ніякіх спецыяльных мерапрыемстваў з нобелеўскім лаўрэатам не запланавана. Першая нобелеўская лаўрэатка, самая папулярная ў свеце беларуская пісьменніца трапіла ў лік «грамадзянаў другога гатунку», чый голас дзяржава ігнаруе.

XXIII Мінская міжнародная кніжная выстава пройдзе з 10 па 14 лютага ў павільёне на праспекце Пераможцаў, 14. Уваход будзе вольны. Ганаровы госць — Арменія. Усяго ў спісе ўдзельнікаў — 29 краін. Галоўныя ж тэмы маючага адбыцца форуму — 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, 30-годдзе Чарнобыльскай катастрофы, 25-годдзе СНД, юбілеі класікаў айчыннай літаратуры і Год культуры.

# «Белсат» змяняе частату: як настроіцца на новую

Ад 11 лютага беларускі незалежны тэлеканал «Белсат» змяняе частату вяшчання. Спадарожнік вяшчання — «Astra 4A» — не мяняецца. Што трэба зрабіць, каб «Белсат» застаўся ў вашым тэлевізары?
1. На вашым пульце або спадарожнікавым рэсіверы ўвайдзіце ў МЕНЮ.
2. Знайдзіце там НАЛАДКІ АНТЭНЫ.
3. Выберыце опцыю РУЧНЫ ПОШУК КАНАЛАЎ і ўвядзіце параметры новай частаты — 12 303 МГц, гарызантальная палярызацыя (12303H). Дадатковыя параметры: мадуляцыя DVB-S, FEC 7/8, SR 25546. Як варыянт, вы можаце таксама выбраць АЎТАМАТЫЧНЫ ПОШУК КАНАЛАЎ і дазволіць рэсіверу самому абнавіць спіс усіх каналаў.
Прыемнага прагляду!

## Сцісла

**Паўночнакарэйскі спадарожнік «бескантрольна круціцца»**

У аўторак стала вядома, што спадарожнік, які вывела на арбіту Паўночная Карэя, бескантрольна круціцца на арбіце. Гучаць меркаванні, што спадарожнік — шырма для выпрабавання ракеты, здольнай несці ядзерную боегалоўку.

**Саша Філіпенка напісаў раман «Цкаванне»**

Расейскі беларус, пісьменнік Саша Філіпенка напісаў раман пра ахвяраў і катаў расійскай прапаганды. Галоўны герой рамана — расейскі журналіст, які расследуе злоўжыванні ўлады, і на яго абвешчанае сапраўднае паляванне. Саша Філіпенка нарадзіўся ў Мінску ў 1984. Жыве ў Маскве, працуе вядучым на незалежным тэлеканале «Дождж». У яго дэбютным рамане «Былы сын» угадваліся падзеі беларускіх прэзідэнцкіх выбараў 2010-га.

**Алег Трусаў прапанаваў перанесці сталіцу ў Полацк**

«Мы будзем пісаць адпаведны зварот да ўладаў з гэтай нагоды», — сказаў старшыня Таварыства беларускай мовы. Адкуль такая ідэя? «Трэба вярнуць сталіцу туды, дзе яна была раней. Інакш мы не зможам спыніць рост мінскага мегаполіса. Трэба зрабіць тое, што зрабілі казахі і бразільцы, — перанесці сталіцу з вялікага горада ў малы», — кажа Трусаў.

**Прадпрымальнікі адмянілі мітынг 15 лютага**

«Мы дабіліся перамоваў у Міністэрстве эканомікі, патрэба ў мітынгу адпадае», — сказаў Анатоль Шумчанка.

**ЗП**

## Апытанне

**Як па-вашаму, Беларусь за апошнія пяць гадоў стала...**

| | | |
|---|---|---|
| больш незалежнай | 65 | 6% |
| больш залежнай | 328 | 32% |
| засталася нязменнай | 138 | 14% |
| а дзе вы бачыце Беларусь у РБ? | 490 | 48% |

Усяго прагаласавала 1021

## Самае чытанае на nn.by за 3—9 лютага

1 Кіроўца запісаў на відэа канфлікт з даішнікам. Брэсцкая міліцыя: Выраз «ідзі на х*й» не знявага
2 Маладая сям'я адмовілася ад хіміі і пластыку ў побыце — інтэрв'ю
3 Помста на 70 мільёнаў. Дзяўчыне распісалі ўвесь новы аўтамабіль абразамі
4 Ці за беларускую мову збівалі амапаўцы студэнта?
5 Зорка Playboy памерла ад інсульту ў 34 гады
6 Віцэ-прэм'ер Качанава: Маладыя трэнеры павінны адэкватна ўспрымаць заробак 1,3 млн рублёў
7 У Луніцы котка ратавала ад холаду маленькага шчанюка
8 Дашкевічы правялі вечарыну, каб абвесціць, што чакаюць другое дзіця. Пол дзіцяці «аб'яўляў» торт
9 Трылер у Гомелі: жонка ледзь не зарэзала мужа за тое, што той не так купіў селядца
10 «Казакі» просяць Лукашэнку дазволіць ім стаць злучэннем тэрытарыяльных войскаў краіны

# Лукашэнка прывёз з Сочы толькі абяцанні?

Працяг са староні 1.

Адметна, што адразу пасля вяртання з Сочы Лукашэнка загаварыў не пра штосьці іншае, як пра крэдыт МВФ. Супадзенне? Не думаю. На сустрэчы з міністрам замежных справаў Уладзімірам Макеем Лукашэнка падкрэсліў: «Мы будзем рэалізоўваць іх [МВФ] праграмы, як бы ні было складана».

Раней паведамлялася, што Беларусь просіць у МВФ 3 мільярды даляраў пад 2,28% на тэрмін 10 гадоў. Лукашэнка сам прызнаў, што на такіх выгадных умовах нашай краіне не атрымаць дапамогі нідзе, Расія пазычала грошы пад нашмат вышэйшы працэнт.

Разам з тым МВФ патрабуе ад Беларусі правядзення эканамічных рэформаў, на якія кіраўніцтва краіны ніяк не адважыцца. 15 лютага будзе разгледжана пытанне аб адмене санкцый Еўразаюза супраць Беларусі. Пры станоўчым вырашэнні пытання імавернасць эмвээфаўскага крэдыту істотна павялічваецца.

Другім сігналам, што з Расіяй не зусім атрымалася дамовіцца, стала размова пра асваенне кітайскага крэдыту. «Мы маглі б прафінансаваць вельмі многія праекты», — сказаў Лукашэнка.

Што тычыцца Расіі, то Лукашэнка ўсё ж даказваў, што Масква прыняла рашэнне падтрымаць эканоміку Беларусі, але ў чым гэта будзе заключацца, зусім няясна.

«Прэзідэнт Расіі і прэм'ер не толькі паабяцалі, але прынялі рашэнне аб падтрымцы, як бы ні было складана ў Расіі, эканомікі Беларусі», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

**Аўстрыя выступае за адмену санкцый ЕС у дачыненні да Беларусі**

Пра гэта заявіў генеральны сакратар МЗС гэтай краіны Міхаэль Лінхарт, размаўляючы з журналістамі на цырымоніі адкрыцця аўстрыйскага пасольства ў Мінску 9 лютага.

«У Брусэлі цяпер ідзе дыскусія. Аўстрыя выступае за адмену, мы на баку Беларусі. Спадзяюся, рух будзе менавіта ў гэты бок», — сказаў дыпламат.

Па словах Лінхарта, Беларусь зрабіла вельмі шмат важных крокаў. «Быў паказаны прагрэс, у прыватнасці магу адзначыць сферу правоў чалавека. Гэтым і тлумачыцца пазіцыя Аўстрыі», — заявіў ён.



«Заява «Расія падтрымае эканоміку Беларусі» зроблена для публікі, каб не палохаць народ. Ён жа не мог сказаць, што візіт праваліў. Рашэнне па расійскім крэдыце, імаверна, будзе прымацца ў сакавіку», — адзначыў выкладчык маскоўскай Вышэйшай школы эканомікі, беларус Дзмітрый Балкунец.

Палітычны аглядальнік *naviny.by* Аляксандр Класкоўскі так напісаў пра вынікі сустрэчы ў Сочы: «Лукашэнка не атрымае ад Масквы вялікіх грошай, але далёка сысці не зможа».

Выглядае, што пакуль Лукашэнка прывёз з горных курортаў Расіі толькі абяцанні, але ніякай канкрэтыкі. Здаецца, кіраўнік краіны і сам не надта верыць у іх, таму матывуе ўрад шукаць крыніцы фінансавання ў іншых месцах.

**Зміцер Панкавец**

# Меркель: Мы ў жаху ад удараў Расіі ў Сірыі

Працяг са старонкі 1.

З 2012 года горад часткова кантралюецца сіламі Асада, а часткова — паўстанцамі.

Алепа знаходзіцца за 50 км ад мяжы Турцыі. Анкара падтрымлівала паўстанцаў у раёне Алепа. Яна ўжо абвінаваціла Расію ў арганізацыі «галоднай блакады» горада. Грамадская думка Турцыі балюча ўспрымае бамбёжкі адзінаверцаў.

У Міністэрстве замежных спраў Турцыі заявілі, што Расія спрабуе схаваць сляды сваіх ваенных злачынстваў у Сірыі.

Масква ж абвінаваціла Турцыю ў падрыхтоўцы сухапутнага ўварвання ў Сірыю.

Анкара адмовіла Расіі ў інспекцыйным палёце над поўднем краіны ў межах міжнародных дамоўленасцей аб кантролі над узбраеннямі.

У сваю чаргу Эр-Рыяд заявіў аб сваёй гатоўнасці да наземнай аперацыі ў Сірыі ў выпадку, калі яе ўзначаляць ЗША.

Перамовы па мірным урэгуляванні ў Сірыі, што мелі прайсці ў Жэневе, сарваліся. Бакі абменьваюцца ўзаемнымі абвінавачваннямі з гэтай нагоды.

Сірыйскія паўстанцы паранейшаму безвынікова просяць Саудаўскую Аравію і Турцыю пра пастаўкі зенітных ракет. Без ракет «зямля-паветра» яны застаюцца безабароннымі перад расійскімі авіяўдарамі. Аднак Вашынгтон па-ранейшаму катэгарычна працівіцца такім пастаўкам, бо існуе небяспека, што зенітныя ракеты ўрэшце з рук паўстанцаў трапяць у рукі тэрарыстаў «Ісламскай дзяржавы».

На Беларусь у гэтай сітуацыі будзе ўплываць той чыннік, што абвастрэнне грамадзянскай вайны ў Сірыі робіць малаімаверным паніжэнне цэн на нафту. Але нашай краіне трэба зрабіць і стратэгічныя высновы з сітуацыі ў Сірыі.

**Сяргей Гезгала**

**Каментар**

Грамадзянская вайнаператварыла Сірыю ў руіны. А хто вінаваты ў той вайне? Найперш — прэзідэнт Асад і ягоны клан, якія ўстанавілі дыктатуру. Таксама і паўстанцы, што думалі зброяй дабіцца перамен. Але найбольш — Расія, Іран, Турцыя і Саудаўская Аравія. Расіі там трэба ваенная база і прэстыж. Іран падтрымлівае саюзнікаў-алавітаў. Турцыя і Аравія хочуць прывесці да ўлады адзінаверцаў-сунітаў. Вінаваты і Абама, які ва ўласцівай яму манеры пяць гадоў назірае, не намагаючыся ўмяшацца. Вось і разарвалі краіну на часткі, дазмагаліся.

**Мікола Бугай**

# Новыя шчырасці віцэ-прэм'еркі Качанавай

Адназначным ньюсмейкерам мінулага тыдня сярод чынавенства была віцэ-прэм'ерка па сацыяльных пытаннях Наталля Качанава. У мінулым нумары «НН» пісала пра яе словы аб тым, што дактары «як працуюць, так і зарабляюць».

Роўна праз дзень на калегіі Міністэрства спорту чыноўніца зрабіла яшчэ адно прызнанне: «Вось прыходзіць малады трэнер на заробак 1,3 мільёна. Ну што зрабіць, такая зарплата! Нагул, чалавек, які скончыў школу, выразна павінен уяўляць, які заробак яго чакае на месцы трэнера нізавога звяна. Разлічваць на тое, што там яго здагоняць велізарныя фінансавыя бонусы, наўрад ці варта. На гэтыя месцы павінен быць вельмі сур'ёзны падбор кадраў. Туды трэба накіроўваць тых, хто хоча займацца трэнерскім рамством, можа ім займацца і хто адэкватна ўспрыме гэты перыяд з заробкам 1,3 мільёна. Вы ўсе «гасударавы людзі» і павінны разумець сітуацыю ў краіне», — сказала Наталля Качанава.

Адметна, што ў самой Качанавай муж працуе выкладчыкам фізкультуры.

«Я цяпер на працы, і многія абураны яе выказваннем. Пажыла б яна сама так! Я працую на паўтары стаўкі, у мяне шэсць груп дзяцей. І зарплата пры гэтым 4 мільёны. Выжываю, бо жыву з бацькамі», — выказваецца «Еўрарадыё» маладая трэнерка па барацьбе з Мінска.

«Што гэта за статус такі — «гасударевы людзі»? — абураецца былы рэдактар «Народнай газеты» Мікалай Галко. — Якому «гасударю» прыпісвае грамадзян Беларусі віцэ-прэм'ерка Качанава?»

Вялікую частку перадачы «Клуб рэдактараў» на «Беларусь-1» прысвяцілі абмеркаванню слоў Наталлі Качанавай.

Старшыня БДТРК Генадзь Давыдзька палічыў, што «антыдзяржаўныя СМІ» перакруцілі словы чыноўніцы і за гэта трэба караць.

Госця студыі, міністарка інфармацыі Лілія Ананіч, адкаментавала так: «Міністэрства інфармацыі гатовае выносіць папярэджанні СМІ за недакладную інфармацыю». Але, бадай, тут гаворка не пра выпадак са словамі Качанавай.

Увогуле, «Клуб рэдактараў» ператварыўся ў сапраўдную вакханалію. На фоне Давыдзькі, які патрабаваў ад міністра расправы з незалежнай журналістыкай, Лілія Ананіч выглядала амаль дэмакраткай. Ва ўсякім выпадку, яна спасылалася на закон і этычныя нормы. Дарэчы, у гэтай праграме замест слова «недзяржаўны» ў прамовах ўсюды выкарыстоўвалася «антыдзяржаўны». «Няўжо абвастрэнне класавай барацьбы па меры прасоўвання да камунізму?» — праіранізаваў у сваім фэйсбуку заснавальнік партала *tut.by* Юрый Зісер.

Варта заўважыць, што ў інтэрнэце, дзе выбар свабодны, адзін «Тут.бай» чытае больш людзей, чым усе дзяржаўныя СМІ разам узятыя.

**Зміцер Панкавец, Сяргей Гезгала**





# Карач параўнала Караткевіч з «хамяком-гаваруном»

Лідарка грамадзянскай кампаніі «Наш дом» Вольга Карач (на фота) апублікавала артыкул, у якім назвала экс-кандыдата ў прэзідэнты Таццяну Караткевіч «галоўным лабістам Лукашэнкі ў апазіцыі».

Артыкул апублікаваны на сайце кампаніі «Наш дом».

«У майго сына ёсць любімая цацка — «хамяк-гаварун». Пацешны звярок, які механічна паўтарае за чалавекам усё, што той прамаўляе. Менавіта яе я ўспамінала, слухаючы выступ Таццяны Караткевіч на канферэнцыі «БелаРускі дыялог» у Маскве 26 студзеня. Надта ўжо моцным было ўражанне, што лідар «Гавары праўду» прамаўляе вывучаныя механічна словы, не ўнікаючы ў сэнс і змест», — піша Карач.

Паводле яе слоў, Караткевіч выступала так, быццам яна з'яўляецца супрацоўнікам амбасады Беларусі.

«Дзіўнае супадзенне пазіцыі беларускай улады і «Гавары праўду» навяло на трывожную выснову пра тое, што «альтэрнатыўны голас» «Гавары праўду» стаў лабістам Аляксандра Лукашэнкі, прыкрываючыся апазіцыйным статусам», — адзначае Карач.

У артыкуле параўноўваюцца заявы прадстаўнікоў беларускай улады і Таццяны Караткевіч. У выніку Карач робіць выснову, што пазіцыя Караткевіч і ўладаў па пытанні адносін з Расійскай Федэрацыяй амаль цалкам супадае.

**ЯМ**

# Аляксандр Косінец: хірург з Віцебска,

Ва ўмовах прэзідэнцкіх рэспублік, такіх як Беларусь ці Расія, кіраўнікі Адміністрацыі прэзідэнта часцяком становяцца шэрымі кардыналамі. За кошт набліжанасці да першай асобы яны робяцца самымі ўплывовымі асобамі дзяржавы.

Адміністрацыяй прэзідэнта ў Беларусі кіруе Аляксандр Косінец. Яго папярэднік Андрэй Кабякоў падчас пазалеташніх публічных дыскусій паміж кансерватарамі на чале з прэм'ерам Міхаілам Мясніковічам і лібераламі, накшталт памочніка прэзідэнта Кірыла Рудага, падкрэслена займаў нейтральную пазіцыю. І ў выніку сам стаў прэм'ер-міністрам — другой асобай краіны.

Не шукае славы і Косінец.

Калі ў эфіры АНТ Косінца пахвалілі як аднаго з выканаўцаў Праграмы нацыянальнай дэмаграфічнай бяспекі, ён перапыніў вядучага. «Штохвілінна гэта праграма знаходзілася ў полі зроку прэзідэнта. Я дванаццаць разоў яму дакладваў! — расплыўся ва ўсмешцы чыноўнік. — Калі і казаць, хто галоўны герой, то павінна быць праўда! Праўда мацнейшая за закон».

Разам з Косінцам ідуць на падвышэнне і яго былыя падначаленыя. Памочнік Аляксандр Пазняк стаў інспектарам па Віцебшчыне — добры трамплін. А былая кіраўніца Наваполацка Наталля Качанава стала віцэ-прэм'еркай.

### Еўрарамонт ад выпускніка

Вёска Роскі Сялец, у якой нарадзіўся будучы кіраўнік Адміністрацыі, раскінулася на ўзгорках непадалёку ад трасы М1 і Оршы. Буйны горад высмактаў з вёскі рабочую сілу. Цяпер тут дажываюць век адны старыя. Зімаваць, кажуць жыхары, застаюцца мо ў дзесяці хатах. Але працуе школа — дзякуючы высілкам Косінца.

У 1990-я школа вымірала, у ёй заставалася трыццаць вучняў. Планавалася перавесці яе ў статус базавай, а пасля і ліквідаваць. Але калі Аляксандр Косінец узначаліў вобласць, будынак рэканструявалі. Вучняў, якіх у Роскім Сяльцы амаль няма, звозяць з суседніх вёсак. Настаўнікі таксама не мясцовыя — з Оршы і Смалянаў.

«Каб вы паглядзелі, як у нас школу аддзелалі! Ад старога будынка засталіся толькі цагліны, — захоплена расказвае знаёмая Косінцаў. — Там цяпер еўрарамонт зрабілі». Праўда, прыбіральню так і пакінулі на вуліцы.



Уладзімір Косінец пайшоў шляхам бацькі.

Былы дырэктар школы Мікалай Ісакаў расказвае, што Косінец дапамагае аднавяскоўцам: «Калі ёсць просьбы ад усіх людзей — заўсёды адгукаецца. Некалькі гадоў таму ўзімку зламалася воданапорная вежа. Мясцовы водаканал марудзіць. Тады я пазваніў Косінцу. Назаўтра ж прыехалі і ўсё зрабілі!»

### Сын міліцыянта і настаўніцы

Пра маці чыноўніка вяскоўцы адгукаюцца прыязна. Таццяна Агееўна Гапоненка была настаўніцай матэматыкі ў той самай школе. Цяпер 87-гадовая жанчына жыве ў дачкі ў Оршы.

А вось пра бацьку, Мікалая Мікалаевіча, інфармацыі куды менш. «Кім ён быў? Нават не скажу вам. Ён кудысьці ўсё ездзіў...» — расказвае суседка. «Бацька займаў розныя пасады, — удакладняе Мікалай Ісакаў, сябар сям'і. — Ён неяк у розных месцах працаваў. То ў міліцыі, то ў калгасе, то ў горадзе».

Багацця ў сям'і не было. «Тады ні ў кога не было. Усе аднолькава жылі», — згадваюць вяскоўцы.

У сям'і гадаваліся трое дзяцей, Аляксандр быў сярод іх малодшым.

Сястра Вольга цяпер працуе настаўніцай біялогіі ў адной са школ Оршы.

Брат Уладзімір, як і Аляксандр, пайшоў у медыцыну. Ён скончыў Вайскова-медыцынскую акадэмію ў Санкт-Пецярбургу. Пасля развалу СССР застаўся служыць у расійскім флоце. Цяпер Уладзімір — палкоўнік, працуе доктарам скурна-венералагічнага аддзялення ў падмаскоўным медцэнтры пры Міністэрстве абароны Расіі.

### Як стварылася дынастыя медыкаў?

«Я ўсе гады вучыўся выдатна. Так выйшла, што ў мяне нават добрых адзнак не было, толькі выдатныя», — узгадвае Косінец. Аднак вяскоўцы кажуць, што медаля за школу ён усё ж не меў. «Ён быў актыўным у дзіцячых арганізацыях: быў старшынёй савета дружыны, камсамольскім сакратаром. За актыўнасць яго ўзнагароджвалі пуцёўкай на месяц у «Зубраня», — узгадвае Мікалай Ісакаў.

«Увогуле, мне пашчасціла шанцавала на добрых настаўнікаў і ў сельскай школе, і ў Оршы, і ў Суvoраўскай вучэльні, і ў інстытуце», — расказваў у інтэрв'ю Косінец.

Аднак па вайсковай лініі Аляксандр не пайшоў і паступіў у Віцебскі медыцынскі ўніверсітэт. Выбарам прафесіі браты Косінцы абавязаны свайму дзядзьку. Мікалай Гапоненка ўзначальваў у вёсцы фельчарска-акушэрскі пункт.

Да войска Косінец аказаўся датычным, толькі калі Аляксандр Лукашэнка надаў яму званне генерал-маёра як кіраўніку тэрытарыяльнай абароны.

«Аляксандр заўсёды папростаму. Маці ж была сельскай настаўніцай — да абеду ў школе, а пасля на гаспадарцы. І ён такі самы, ад сялян. Калі вучыўся ва ўніверсітэце, званіў мне: «Мікалай Фёдаравіч, прыеду дахаты, трэба дапамагчы маці. Ці можна ўзяць у вас каня і воз?» І так і ўвесну, і ўвосень», — расказвае былы дырэктар школы.

### З рэктара ў віцэ-прэм'еры

Медыцынская кар'ера Косінца разгортвалася імкліва. Пасля





У бацькоўскай хаце Косінцаў цяпер ніхто не жыве.

**Аляксандр Косінец**

Нар. 27 мая 1959 у вёсцы Роскі Сялец на Аршаншчыне. Закончыў Віцебскі дзяржаўны медыцынскі інстытут (1982), магістратуру эканамічнага факультэта БДУ (2007). Кандыдат (1988) і доктар медыцынскіх навук (1993). Працаваў у Віцебскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце (1980—1994) — клінічны ардынатар, асістэнт, дацэнт кафедры шпітальнай хірургіі. Кіраўнік РНПЦ «Інфекцыя і хірургія» (1995—1997), рэктар Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта (1997—2005), віцэ-прэм'ер (2005—2008), старшыня Віцебскага аблвыканкама (2008—2014). Ад 2014 — кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта. Мае сына.

сканчэння вучобы ён застаўся ва ўніверсітэце. За 10 гадоў працы ўзняўся да пасады дацэнта кафедры шпітальнай хірургіі. За гэты час ён паспеў абараніць кандыдацкую (у Мінску) і доктарскую (у Маскве) дысертацыі. І гэта ў 37 гадоў!

Аляксандр Косінец спецыялізаваўся на хірургіі і анкалогіі. Некалькі гадоў пакіраваўшы РНПЦ «Інфекцыя і хірургія», Косінец вярнуўся ў альма-матэр рэктарам. Навуковай дзейнасці не спыняў. Апошняя кніга пад яго аўтарствам выйшла ў 2012 годзе, ужо падчас кіравання вобласцю.

У 2005 годзе Косінца перавялі ў Мінск віцэ-прэм'ерам па сацыяльных пытаннях.

Палітолаг Аляксандр Фядута сцвярджаў, што менавіта дзякуючы Косінцу ўдалося змякчыць «рэформы Пастаялкі» і ўратаваць айчынную медыцыну. Па інфармацыі Фядуты, у 2008 годзе былі два кандыдаты на пасаду кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта — Косінец і Уладзімір Макей. Лукашэнка параіўся з Анатолем Рубінавым, з якім у Косінца не складзіся адносіны. Высокую пасаду заняў Макей, а віцебскага медыка ў выніку адправілі кіраваць Віцебшчынай.

### Што Косінец пакінуў пасля сябе ў Віцебску

Чым запомніўся Косінец на пасадзе старшыні Віцебскага аблвыканкама, дык гэта буйнымі праектамі.

Самая гучная ідэя — будаўніцтва «Дыснэйлэнда». У цэнтры Віцебска, за $100 мільёнаў. Зразумела, рэалізоўваць загадзя стратны праект нават не пачыналі.

Браўся Косінец і за праблему бяздомных, і за забарону сэксу па тэлефоне.

А вось рэканструкцыю плошчы Перамогі ў Віцебску ўдалося давесці да канца. Дрэвы спілавалі, а вызваленую прастору заклалі пліткай. Атрыманую плошчу называюць самай вялікай у Еўропе. У народзе ж яе празвалі «Аляксандрплац».

Па ініцыятыве Косінца «Макдональдс» упершыню выйшаў за межы Мінска і адкрыў рэстаран у Віцебску.

А ў цэнтры горада ўлетку 2014 быў усталяваны помнік Альгерду. «Мы нікому не дамо сябе ў крыўду. Мы любім сваю Радзіму і будзем рабіць усё, каб яе абараніць. Будзем рабіць так, каб былі мір і росквіт. Але і пусціць сюды — мы нікога не пусцім. Нам чужой зямлі не трэба, але і сваёй не аддамо. Хто з мячом да нас прыйдзе — той ад мяча і загіне», — заявіў Косінец на наступны дзень.

Нарэшце, у часы кіравання Косінца «Пагоня» стала афіцыйным гербам Віцебскай вобласці.

### Па кватэры — жонцы і сыну, катэдж — сабе

Пераехаўшы ў сталіцу, чыноўнік пакінуў віцебскую кватэру сыну. Тым часам сям'і даводзілася вырашаць жыллёвае пытанне ў Мінску. А чыноўнік з жонкай Аленай — таксама медыкам — змаглі патрапіць у кааператыў «Атланта». Для работнікаў завода халадзільнікаў будаваўся шматпавярховік на вуліцы Гвардзейскай, непадалёку ад стэлы «Горад-герой Мінск». Тагачаснаму віцэ-прэм'еру дасталася вялікая трохпакаёўка — 120 м².

Цяпер кватэра належыць Алене Косінец. Цікава, што месца на падземным паркінгу ў гэтым доме дасталася ёй у канцы 2013 года паводле дамовы раздзелу маёмасці.

А вось на раздачу ўчасткаў у «Драздах-1» Косінец паспеў не адразу. Ягоная «чарга» надышла толькі ў пачатку 2008 года. Віцэ-прэм'ер займеў зямлю на вуліцы Дароўскай побач з бізнэсменамі сярэдняй рукі. Кадастравая цана ягоных 10 со-

# які зрабіў дзяржаўную кар'еру

так — каля $225 тысяч. Але разам з домам каштуе значна даражэй, да $1 мільёна.

Зрэшты, дабудаваццa да часу прызначэння ў Віцебск чыноўнік не паспеў. Катэдж плошчай 442 м² быў гатовы толькі ў канцы 2010 года. Цяпер ім валодаюць у роўных долях бацька і сын — Аляксандр і Уладзімір Косінцы.

**Сын вярнуўся ў Беларусь**

Уладзімір Косінец робіць яшчэ больш імклівую кар'еру, чым бацька. Ён спачатку на выдатна скончыў Віцебскі медыцынскі ўніверсітэт. У 27 гадоў Уладзімір стаў кандыдатам навук, а ўжо ў 31 абараніў у Расіі доктарскую дысертацыю.

Спецыялізацыяй Косінца-малодшага стала пластычная хірургія. Ён уладкаваўся пластычным хірургам у Еўрапейскі медыцынскі цэнтр у Маскве. Гэта клініка, якую яшчэ за савецкімі часамі адкрылі французы для абслугоўвання замежнікаў.

У канцы 2014 года Аляксандр Лукашэнка ўпікнуў тагачаснага міністра адукацыі Сяргея Маскевіча дзецьмі, якія працавалі за мяжой, у ЗША. Але Расія для цяперашняй Беларусі — не заграніца.

У 2015 годзе Уладзімір Косінец вярнуўся ў Беларусь. Звестак пра яго на сайце Еўрапейскага медыцынскага цэнтра больш няма. На ўласным сайце Косінца-малодшага пазначана, што ён праводзіць прыём у клініцы пластычнай хірургіі Віцебскага медуніверсітэта і ў мінскім «Ладэ».

Колькі каштуюць паслугі доктара? Напрыклад, за павелічэнне грудзей ён бярэ 20 мільёнаў рублёў (без уліку імплантаў). Столькі ж каштуе, напрыклад, і змяншэнне носа.

**...а бацька — у Мінск**

У Мінск Аляксандра Косінца вярнулі ў канцы 2014 года, падчас масавага перасоўвання чыноўнікаў. Косінец стаў кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта.

Стылю кіравання Косінца характэрная жорсткасць. Падобныя эпітэты Лукашэнка адрасаваў, бадай, толькі Сямёну Шапіру, цяперашняму старшыні Мінскага аблвыканкама. «Мабілізаваць людскія рэсурсы, не менш за 7—10 тысяч чалавек, на ўборку лёну. ... У адваротным выпадку буду лічыць, што наносіце краіне эканамічныя страты! Несяце персанальную адказнасць!» — такую гнеўную тэлефанаграму рассылаў Косінец увосень 2012 года.

А праз год пацярпеў сам: яму і міністру будаўніцтва Анатолю Нічкасаву Лукашэнка вынес вымовы за сарваную мадэрнізацыю «Віцебскдрэва».

«Лідарская жылка ў яго была. Можа, нейкае імкненне да ўлады ёсць, але ён не з тых, хто лезе па галовах», — мяркуе Мікалай Ісакаў.




Дом у Драздах цярпліва чакаў гаспадара з віцебскай камандзіроўкі.

Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч

# Успаміны расійскай мадэлькі: «Беразоўскі хацеў зрабіць з Лукашэнкі якаснага еўрапейскага лідара»

Партал «Сноб» і расійскі мільянер Пётр Авен, які на пачатку 1990-х быў міністрам замежных эканамічных сувязяў Расіі, падрыхтавалі цыкл гутарак да 70-годдзя памерлага алігарха Барыса Беразоўскага.

Адно з інтэрв'ю Авен зрабіў з мадэллю «Дар'яй К.», якая была заручаная з Беразоўскім у 2010 годзе.

Па яе словах, Беразоўскі знайшоў яе ў мадэльным агенцтве і першапачаткова планаваў пазнаёміць з Аляксандрам Лукашэнкам, а пасля закахаўся і пакінуў сабе.

Разам з алігархам Дар'я неаднаразова наведвала Беларусь.

Па словах Дар'і, Беразоўскі вельмі хацеў вярнуцца ў Расію. «Таму і шмат часу праводзіў у Беларусі, уласна кажучы. Пра Лукашэнку што я магу сказаць? Ён у любым выпадку любіць сваю краіну і спрабуе для яе зрабіць максімум, але ён больш падобны да старшыні калгаса нейкага», — разважае Дар'я.

Мадэль кажа, што Беразоўскі спрабаваў змяніць выгляд Лукашэнкі: «Ён, наколькі я ведаю, перашываў яму касцюмы, прыбіраў плечыкі. Выклікаў нейкіх сваіх краўцоў. Увогуле, ён хацеў зрабіць з яго такога якаснага еўрапейскага лідара, па ўсіх параметрах».

Што да палітычных перспектываў, то Беразоўскі, імкнучыся прыбраць Пуціна, марыў стварыць «нейкі саюз, які не ўваходзіць у Еўропу і супраць Расіі». У гэтае аб'яднанне мусілі ўваходзіць Украіна, Беларусь і Грузія.

БЮ



# «Казакі» просяць Лукашэнку дазволіць ім стаць злучэннем тэрытарыяльных войскаў краіны



Беларускія казакі звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай дазволіць ім стаць вайсковым злучэннем тэрытарыяльных войскаў краіны. Зварот быў прыняты 6 лютага ў Мінску на пазачарговым сёмым вялікім коле казакоў, якое правяло РГА «Беларускае казацтва».

«У гэты няпросты час мы звяртаемся да вас як да вярхоўнага галоўнакамандуючага Рэспублікі Беларусь з надзеяй, што беларускія казакі на гэтым этапе стануць вайсковым злучэннем тэрытарыяльных войскаў краіны і на аснове нашага рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускае казацтва» «будзе створана рэестравае казацтва з выданнем указа прэзідэнта Рэспублікі Беларусь», — гаворыцца ў звароце.

У дакуменце таксама адзначаецца, што дзякуючы як дзейнасці асабіста Лукашэнкі, так і намаганням грамадзян краіны, працоўных калектываў прадпрыемстваў і арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў «сучаснае аблічча рэспублікі змяняецца». «Айчына прыкметна памаладзела, стала ярчэйшай, прыгажэйшай, больш ветлівай, атрымала магутны імпульс для далейшага развіцця, сур'ёзна палепшыліся ўзаемаадносіны з дзяржавамі Еўрасаюза», — лічаць казакі.

На іх думку, «дынамічнае развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі сведчаць аб велізарным патэнцыяле рэспублікі і яе прэзідэнта», «высокі давер» да якога паказалі прэзідэнцкія выбары 2015 года.

У дакуменце адзначаецца, што асноўнай статутнай мэтай аб'яднання з'яўляецца «адраджэнне казацтва ў Рэспубліцы Беларусь на асновах праваслаўя, патрыятызму, служэння Айчыне, адданасці беларускаму народу і яго прэзідэнту».

«Мы, казакі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, выступаем у вашу падтрымку і ўпэўненыя ў вас, як у апоры магутнай, незалежнай і квітнеючай Беларусі, яе сучаснасці і будучыні», — падкрэсліваецца ў звароце да Лукашэнкі.

Нагадаем, раней вярхоўны атаман арганізацыі Мікалай Улаховіч параўнаў Партыю БНФ з «Ісламскай дзяржавай».

Паводле БелаПАН

# Як выглядаюць мінскія катэджы, якія купляюць за $500 тысяч і даражэй?

У каталогах агенцтваў нерухомасці дзясяткі прапановаў аб продажы элітных катэджаў. Гаспадары просяць за іх шалёныя грошы — часам нават больш за $2 мільёны. Прадаць жыллё за такія сумы малаверагодна, аднак некаторым удаецца.

«Наша Ніва» прааналізавала інфармацыю Нацыянальнага кадастравага агенцтва за 2015 год: якія заключаныя ўгоды былі самымі дарагімі?



**1. Вуліца Ржавецкая, 32, раён «Мінск-Арэны» — $2,2 мільёна**

Плошча дома: 381 м²
Плошча надзела: 13 сотак

Самымі шчодрымі купцамі аказаліся кітайцы. Катэдж у раёне «Мінск-Арэны» дастаўся «Кітайскай карпарацыі па будаўніцтве дарог і мастоў». Гэта генеральны падрадчык на рэканструкцыі трасы Мінск—Гомель. Будынак выкарыстоўваецца як офіс кампаніі, пра што сведчыць вывеска на варотах.



**2. Вуліца Крупецкая, ДраздЫ — $1,3 мільёна**

Плошча дома: 316 м²
Плошча надзела: 7,6 соткі

У Драздах ёсць два тыпы дамоў. Першую палову складаюць катэджы чыноўнікаў на зямлі, атрыманай ад дзяржавы. Другую — жыллё бізнэсоўцаў, якія выкупілі надзелы самі. На продаж пераважна выстаўляецца менавіта гэтая нерухомасць.

Катэдж на вуліцы Крупецкай прадаваўся за $1,8 мільёна, але ранейшы гаспадар скінуў цану.

«Падлогі — натуральны камень і дубовы паркет. Кіназала. Цёплы гараж на дзве машыны», — гаварылася ў аб'яве аб продажы. У двары дома бонус — басейн з падагрэвам.

**3. Вёска Юхнаўка, 15 км ад Мінска — $1 мільён**

Плошча дома: 410 м²
Плошча надзела: 25 сотак

Катэдж у Юхнаўцы — унікальны сярод пералічаных катэджаў адразу па некалькіх пазіцыях.

Гэта адзіны дом на аддалегласці ад Мінска. Ён таксама — адзіны драўляны.

Ну і ў дадатак, гэта адзіны з пералічаных катэджаў, уласнікам якога стаў грамадзянін Расіі.






**4. Залаты завулак, 15, ДраздЫ — $980 тысяч**

Плошча дома: 485 м²
Плошча надзела: 9,4 соткі

Здымкаў інтэр'ераў няма, бо хваліцца пакуль няма чым. Дом прадаваўся без зробленага рамонту, проста з чарнавой аддзелкай. Таму і цана ніжэйшая, чым на суседняй Крупецкай вуліцы. Зрэшты, стартавы кошт складаў $1,3 мільёна.

На Залатым завулку можна займець статусных суседзяў: побач жывуць былы міністр замежных спраў Сяргей Мартынаў і вялікі прыхільнік сталінскай эканамічнай палітыкі Сяргей Ткачоў, былы дарадца Лукашэнкі.



**5. Вуліца Пастаўская, 24, Цна — $560 тысяч**

Плошча дома: 513 м²
Плошча надзела: 13 сотак

Катэдж арыгінальнага выгляду, набыты ў кастрычніку 2015 года, не прынёс радасці новай гаспадыні. Менш чым праз два месяцы на яе была заведзеная крымінальная справа, таму на дом цяпер накладзены арышт.

**6. Вуліца Цяплічная, 36а, раён Нацыянальнай бібліятэкі — $550 000**

Плошча дома: 378 м²
Плошча надзела: 7 сотак

З гэтым домам адбылася дзіўная гісторыя. У пачатку 2015 года яго набылі за $550 тысяч. А ў канцы года гаспадар змяніўся яшчэ раз, вось толькі кошт катэджа абваліўся да $180 тысяч. Праўда, пры рэгістрацыі дамовы можна ўказваць адвольныя сумы.



**7. Вуліца Бурштынавая, 19, Зацань — $510 000**

Плошча дома: 263,5 м²
Плошча надзела: 12,3 соткі

Дом нічым не адметны сярод суседніх, ды яшчэ і самы маленькі па памеры.

Арыгінальная спроба дадаткова абараніць маёмасць: паводле дакументаў, гаспадары дома — двух- і трохгадовыя дзеці.





**Бонус: вуліца Вяснінка, 3 — $450 тысяч**

Плошча дома: пад знос
Плошча надзела: 11,4 соткі

Пацвярджэнне рэкордных цэн у «Драздах-2». Драўляную вясковую хату з некалькімі паветкамі набылі за $450 тысяч. Дом, вядома ж, пойдзе пад знос. Вялікія грошы плацяць за зямлю.

**Ягор Марціновіч**

# КДБ: Шэсце ў Сапоцкіне з імперскімі сцягамі было праведзена ў рамках заканадаўства

24-гадовы мінчук Аляксандр у кастрычніку 2015 года накіраваў зварот у КДБ з пытаннямі аб дзейнасці казацкіх арганізацый на тэрыторыі Беларусі. Апошняй кропляй было шэсце ў Сапоцкіне (Гродзенскі раён), дзе казакі выкарыстоўвалі расійскія імперскія сцягі.

Гэта было падчас працэсіі ў гонар 101-й гадавіны цудоўнага аб'яўлення Прасвятой Багародзіцы ў Аўгустоўскіх лясах. Чорна-жоўта-белыя сцягі з Мінска прывезлі прадстаўнікі арганізацыі «Казацкі спас».

Чорна-жоўта-белы сцяг выкарыстоўваўся ў XIX стагоддзі як гербавы сцяг Расійскай імперыі. Сёння яго на ўзбраенне ўзялі расійскія шавіністы — тыя самыя, што хочуць далучэння Беларусі да Расіі. У шэсці таксама бралі ўдзел памежнікі.

«Прашу ўдакладніць, наколькі выкарыстанне дадзенай сімволікі дзяржаўнымі органамі і ваенізаванымі арганізацыямі адпавядае Закону Рэспублікі Беларусь. А таксама прашу праверыць, ці не з'яўляецца актыўнасць так званых «казакоў» і дзеянні такога кшталту, як шэсце пад сцягамі Расійскай Імперыі, пагрозай для суверэнітэту Рэспублікі Беларусь», — напісаў Аляксандр.

Адказу з КДБ не было на працягу 40 дзён, расказаў ён «Нашай Ніве». Пасля чаго Аляксандр звярнуўся ў Генеральную пракуратуру, толькі пасля гэтага Камітэт дзяржбяспекі вымушаны быў даць адказ.

Ліст прыйшоў за подпісам першага намесніка кіраўніка КДБ Ігара Сяргеенкі. У адказе гаворыцца:

«Паведамляем, што мерапрыемства 2015.09.13 у г.п.Сапоцкін Гродзенскага раёна было праведзена ў рамках дзейнага заканадаўства».

Аляксандр расчараваны адказам КДБ. «Выходзіць, што за выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні» караюць у судах, а за «імперку» — не. Мяне хвалюе не канкрэтная сітуацыя ў Сапоцкіне — шэсце прайшло, і нічога не зробіш, — а наогул уся дзейнасць так званых «казакоў», якія ўсё больш лезуць у справы краіны. І на гэтае пытанне адказу я не атрымаў», — так пракаментаваў «Нашай Ніве» гэты адказ Аляксандр.

**Зміцер Панкавец**




# Прэтэндэнт у дэпутаты ад «Белай Русі»: «Дарваўшыся да ўлады, апазіцыя адсячэ ўсім нязгодным галовы»

Восенню ў Беларусі адбудуцца выбары ў палату прадстаўнікоў. Праўда, выбарамі ўсе папярэднія кампаніі можна было назваць толькі ўмоўна: 110 месцаў са 110 займалі асобы, вызначаныя ўладамі, апазіцыі ў парламенце няма.

Вось і ў гэты раз пра свой намер стаць заканатворцамі заявілі члены праўладнай «Белай Русі», якія правялі свой сход у сталіцы.

«Мы плануем падтрымаць нашых прадстаўнікоў ва ўсіх 110 акругах, — заявіў старшыня арганізацыі Аляксандр Радзькоў. — Падбор і абмеркаванне кандыдатур ужо пачаліся, прычым досыць інтэнсіўна».

Хто такія — тыя кандыдаты ў дэпутаты ад «Белай Русі»? Першы з іх з'явіўся ў эфіры тэлеканала «Беларусь-1» — гэта дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта Валянцін Старычонак.



«Яшчэ зусім нядаўна Валянцін сам быў студэнтам, а сёння рыхтуе будучых педагогаў. Актыўная жыццёвая пазіцыя прывяла яго ў шэрагі «Белай Русі». Прызвычаіўся працаваць з аддачай, таму з'явілася думка пайсці ў дэпутаты», — так апісала яго журналістка дзяржаўнага канала.

Сам Валянцін за тыя некалькі секундаў, на якія яго пусцілі ў кадр, сказаў, што парламенту патрэбна неабыякавая да палітыкі моладзь, якая мае сваю «моладзевую энергію».

Мы пашукалі ў інтэрнэце, што сабой уяўляе першы заяўлены кандыдат у дэпутаты.

У інтэрнэце Старычонак пазіцыянуе сябе як палітолаг.

«Назіраць за нашымі «свядомымі» з «апазіцыі» — непаўторная асалода, хаця гэтая асалода і не для людзей са слабымі нервамі», — піша Старычонак.

«Болей за ўсё нашыя «свядомыя» гавораць пра дэмакратыю. Аднак... назіраючы за імі, знаходзіш падабенства з якабінцамі, якія рубілі галовы ўсім нязгодным. Безумоўна, прыйшоўшы да ўлады, яны стануць рубіць галовы сваім апанентам. Ці дэмакратыя гэта? Не. Гэта таталітарызм», — разважае Старычонак і вінавацargument «свядомых» у занепадзе беларускай мовы.

«Свядомыя» любяць паразважаць пра заняпад беларускай мовы і пра адказнасць, якую нібыта за гэта нясе цяперашняя ўлада. Безумоўна, менавіта на іх (і ні на кім іншым!) ляжыць адказнасць за тое, што народ падзабыў сваю мову. «Прад'явы», якія кідаюцца ўладзе, — чарговая спроба спіхнуць на трэціх адказнасць за ўласную няздольнасць самастойна вывучыць мову».

Таксама Старычонак раіць «аўтарытэтам ад апазіцыі» пачытаць глыбокую і разумную літаратуру.

«Мо іхні дыскурс стане цікавейшым, калі ён узбагаціцца ідэямі Рэнэ Генона ці калісьці моднага Алістэра Кроўлі. Тады іхнія тэорыі напоўняцца панылай метафізікай і набудуць загадкавае і сумнае гучанне на фоне развалу Старога свету і зараджэння новага эону», — піша Старычонак.

(Эон — паняцце ў старажытнагрэчаскай філасофіі, якое абазначае жыццёвы шлях чалавека).

Мы вырашылі пацікавіцца і перапытаць у імавернага дэпутата, чаму ён так ненавідзіць «свядомых». Вядома, што бацька Валянціна — слынны беларускі мовазнаўца, прафесар Васіль Старычонак, сёння ён дэкан факультэта беларускай і рускай філалогіі ў тым жа БДПУ імя Танка.

Мо і свайго бацьку Валянцін лічыць заядлым «свядомым»?

Аднак сын Васіля Дзянісавіча заявіў журналісту «Нашай Нівы», што меў на ўвазе тых «свядомых», «якія вельмі-вельмі непрымірэнча ставяцца да іншых ідэяў».

«Я не меў на ўвазе ўсіх людзей, якія любяць беларускую мову, а менавіта тых, якія вельмі негатыўна рэагуюць на адэкватныя дзеянні», — малазразумела выказаўся Валянцін і адзначыў, што гэта ўсяго толькі метафара.

Таксама Старычонак запэўніў, што за «рускі свет» ён не выступае.

«Я за беларускі свет, адназначна. За суверэнітэт з будаваннем прагматычных адносін, у тым ліку з Расіяй. Было б бессэнсоўна гэтыя адносіны разрываць ці сапсаваць, таксама можна развіваць адносіны з ЕС. Трэба і з тымі, і з гэтымі сябраваць, я мяркую», — сказаў Старычонак.

Што да сваіх планаў стаць дэпутатам, Валянцін кажа, што пра гэта пакуль рана казаць. Маўляў, журналістка «Беларусь-1» штосьці не так зразумела.

Напрыканцы размовы Валянцін паспрабаваў патлумачыць свае словы пра «зараджэнне новага эону», сказаўшы, што было б няблага, каб «апазіцыйныя ідэі, тая ж «Наша Ніва», каб яна была фундзіравана нейкай філасофіяй, ці французскай, ці якой яшчэ. Можна на Рэнэ Генона абапірацца, не істотна».

«У двух словах тут не скажаш», — рэзюмаваў Старычонак.

**Арцём Гарбацэвіч**

# БТ падало хлопцаў са «справы графіцістаў» наркаманамі, што працуюць за валюту

У перадачы «Галоўны эфір» выйшаў сюжэт пра ўдзельнікаў «справы графіцістаў». У ролю хлопцы паўстаюць наркаманамі, якія малююць свае графіці і ладзяць акцыі за невядома кім накіраваныя буйныя сумы ў амерыканскай валюце.

Прычым у відэа выкарыстаны аўдыёзапіс аператыўнай праслушкі тэлефонаў.

«Так, у відэа фігуруюць кавалкі з нашых тэлефонных размоў. Але яны відавочна перамантаваныя, напрыклад гутарка пра шпрыц. Тым больш далей паведамляецца, што гэта жарт, але, само сабой, гэта выразана, — пракаментаваў адзін з графіцістаў Вадзім Жаромскі. — Насамрэч, шпрыц быў патрэбен нам, каб напаўняць фарбай лямпачкі».

Грошы ж, якія ўзгадваюць у сюжэце, належаць былой дзяўчыне іншага графіціста, Максіма Пякарскага. На момант яго затрымання яна жыла з ім разам. Дарэчы, каля 2 месяцаў таму ўсю суму дзяўчыне міліцыя вярнула.

Нагадаем, 11 жніўня 2015 года пяцёра хлопцаў былі затрыманы па падазрэнні ў нанясенні графіці «Беларусь мае быць беларускай» і «Рэвалюцыя свядомасці, яна ўжо ідзе...», а таксама заляпванні фарбай сацыяльнага білборда з выявай супрацоўнікаў міліцыі.

А 29 студзеня ў судзе Фрунзенскага раёна быў вынесены прысуд — хлопцы атрымалі штрафы ад 30 да 50 базавых велічынь.

Цяпер графіцісты плануюць падаць у суд на журналістаў і стваральнікаў перадачы «Галоўны эфір».

**УШ**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**У судзе графіцістаў падтрымлівалі сябры.**

# Брэсцкая міліцыя: Выраз «ідзі на х*й» не з'яўляецца знявагай

Кіроўца запісаў на відэа канфлікт з даішнікам.

Брэсцкі кіроўца напісаў заяву, у якой прасіў аб прыцягненні да адказнасці інспектара ДПС: той... паслаў кіроўцу «на х...й», што патрапіла на запіс відэарэгістратара. А яшчэ звяртаўся «малыш» і «Андруша».

Адказ прыйшоў за подпісам намесніка начальніка абласной міліцыі Вячаслава Максімука. Максімук сцвярджае, што была праведзеная лінгвістычная экспертыза.

Паводле яе, словы «малыш» і «Андруша» не з'яўляюцца наўмысным прыніжэннем гонару і годнасці асобы. Абразай не з'яўляецца і выраз «ідзі на х...й», хоць ненаваны эксперт і прызнае, што гэта «непристойная форма выразу».

Кіроўца быў спынены для праверкі і па просьбе інспектара



3

По Вашему обращению в отдел внутренних дел администрации Ленинского района г.Бреста о привлечении к административной ответственности инспектора ДПС Петручика С.Н. за неуважение и оскорбление проведена проверка, в ходе которой назначалась лингвистическая экспертиза. Согласно заключению выражения «малыш» и «Андрюша» не являются умышленным унижением чести и достоинства личности, выраженным в неприличной форме, поэтому не являются оскорблением; выражение «иди на х.й» является неприличной формой выражения, но не является умышленным унижением чести и достоинства личности, поэтому также не является оскорблением.

В связи с этим, 19.11.2015 вынесено постановление о прекращении ла об административном правонарушении по ст.9.3 и ст.17.1 КоАП публики Беларусь в отношении Петручика С.Н. в связи едоказанностью виновности лица, в отношении которого ведется нистративный процесс. Постановление не обжаловалось и вступило онную силу.

**Селянін з-пад Брэста атрымаў з міліцыі дзіўны адказ.**

Пятручыка стаў паказваць яму па чарзе патрэбныя дакументы. Інспектар жа патрабаваў усе адразу, а пасля вырашыў скласці пратакол.

Аднак кіроўца пайшоў у контры, цягнуў з перадачай пасведчання кіроўцы і прайсці ў аўтамабіль ДАІ адмовіўся. У выніку кіроўцу ў кайданках завезлі ў РУУС, а пасля аштрафавалі на 1,8 мільёна рублёў.

**БЮ**

# «Каціўся па лёдзе, не было за што зачапіцца» — вецер гнаў рыбака па лёдзе кіламетр

Моцны вецер, пра які сіноптыкі папярэджвалі ў мінулы аўторак, сыграў злы жарт з зацятым рыбаком з Маладзечна Віктарам Лукашэвічам.

– Рыбачыў я на Вілейскім вадасховішчы, калі раптам падзьмуў моцны вецер, — расказвае рыбак.

Рыбачыў Віктар ля месца Чыжэвічы. А парыў ветру аднёс яго разам з палаткай, акулярамі,



рыбацкімі снасцямі і тэрмасам аж да Касуцкага моста.

– Гнала мяне па лёдзе недзе кіламетр. Проста каціўся па лёдзе, не было за што зачапіцца. Толькі праз кіламетр, калі на лёдзе з'явіўся сняжок, я змог легчы і ўтрымацца ад ветру.

А вось палатку і ўсю маёмасць вецер пагнаў да лесу.

– А самае крыўднае, што ўжо налавіў кілаграмы тры рыбы, якая таксама пераватварылася ў «лятучую». Паляцела разам з палаткай.

Віктар Уладзіміравіч вельмі просіць таго, хто бачыў палатку-падарожніцу, вярнуць яе гаспадару.

Калі вы знайшлі палатку, ці тэрмас, ці акуляры паблізу Вілейскага вадасховішча — паведамце ў рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты». З гаспадара ў знак падзякі — вялікая рыбіна.

**rh.by**

# Зорка Playboy памерла ад інсульту ў 34 гады



У ЗША 34-гадовая мадэль часопіса *Playboy* і зорка сацсетак Кэці Мэй (*Katie May)* памерла ад інсульту.

«Мы пацвярджаем смерць Кэці Мэй — маці, дачкі, сястры, сяброўкі, бізнэсвумен, мадэлі і зоркі сацсетак», — гаворыцца ў заяве сям'і Мэй. Жанчына пакутавала ад боляў у шыі і звярнулася па дапамогу да дактароў. У Мэй адбылася закупорка соннай артэрыі ў панядзелак, 1 лютага, у сувязі з чым яна памерла.

У мадэлі засталася сямігадовая дачка Міа. На сайце *GoFundMe* быў адкрыты збор сродкаў, якія пойдуць на адукацыю дзяўчынкі. На момант напісання матэрыялу было сабрана каля 10 тысяч даляраў.

Выданні *Sports Illustrated, GQ* і іншыя назвалі Мэй «каралевай *Snapchat*». На старонку мадэлі ў *Instagram* падпісаны амаль два мільёны чалавек

## Суд стаў на бок тэлезоркі Люцыі Лушчык у справе аб абароне гонару і годнасці

У сераду, 3 лютага, суд Цэнтральнага раёна Мінска адмовіў Ілоне Герашчанка ў пазове аб абароне гонару і годнасці да тэлезоркі, вядомай пад псеўданімам «Люцыя Лушчык» (у цывільным жыцці Люцыя Герашчанка).

Коратка нагадаем, з чаго ўтварыўся канфлікт. Тэлезорка пабралася шлюбам з уплывовым бізнэсменам Андрэем Герашчанкам і разам з мужам выхоўвае яго малую дачку. Родная маці дзяўчынкі, Ілона Герашчанка, сцвярджае, што ўжо больш за год не можа з ёй бачыцца: не дазваляе былы муж. У сувязі з гэтым ідуць судовыя разбіральніцтвы.

Два месяцы таму беларускі інтэрнэт ускалыхнуў відэазапіс, на якім жанчына, падобная да тэлезоркі, у прысутнасці дзяўчынкі абвінавачвае Ілону Герашчанка, што тая «бавіць час з палюбоўнікам», з'яўляецца «спецыялістам па жанатых мужчынах». У сувязі з гэтымі абразамі Ілона звярнулася ў суд.



«Прашу ўвагі прэсы, — прамаўляе суддзя падчас вынясення рашэння. — Відэаздымкі, якія былі прадстаўленыя, не сведчаць пра тое, што яны вяліся адкрыта, дапушчальна і на законных падставах. Суд не знайшоў прававых падставаў прыняць відэа як доказ».

У сярэдзіне лютага адновіцца працэс, цягам якога суд павінен вызначыць парадак адносінаў маленькай дачкі з бацькамі. Наўпрост просім Андрэя Герашчанку пракаментаваць інфармацыю пра тое, ці сапраўды ён больш за год не дазваляе дачцэ бачыцца з яе роднай маці. У такіх пытаннях Андрэй Аляксандравіч бачыць спробу ўлезці ў яго прыватнае жыццё. Спасылаецца на «Кодэкс аб шлюбе і сям'і» і адзначае, што ў спрэчках паміж былой жонкай і ім разбярэцца суд.

Калі коратка, ён бачыць сітуацыю так, што ў 2014 годзе Ілона Герашчанка вывезла дачку ў Маскву і не жадала з ім дамаўляцца. Гэты і многія іншыя аргументы змусілі яго ўзяць сітуацыю пад кантроль і забраць дачку да сябе.

Ілона Герашчанка паказвае дакументы і фота, якія, па яе словах, даказваюць, што ў Маскву яна і дачка з'ехалі не ў 2014-м, а на некалькі гадоў раней. І тады ўсе пагадненні наконт выхавання дзяўчынкі паспяхова дзейнічалі на два гарады.

«Сам Андрэй прыязджаў і ў Маскве дзіця забіраў. Роўна як і мой бацька забіраў дзіця ў Мінску і адвозіў у Маскву», — распавядае Ілона Герашчанка.

**Яўген Валошын, Еўрарадыё**

**Нацыянальны інтэрас**

# Рубельскія (не рублёўскія) бацюшкі



Піша **Аляксандр Пашкевіч**.

Упаўнаважаны па справах рэлігій Гуляка заявіў, што Каталіцкі касцёл «недастаткова працуе з падрыхтоўкай кадраў».

Такія недарэчныя выказванні дзяржаўнага чыноўніка вынікаюць, мне падаецца, не толькі з ягонай асабістай далёкасці ад рэлігійных спраў (нягледзячы на займаную пасаду), але і з назірання за тым, як лёгка і проста такія праблемы пры патрэбе вырашаюцца ў Праваслаўнай царкве.

Былі і ў яе вострыя кадравыя праблемы ў 1990-я гады, калі пасля гадоў змагання з рэлігіяй абмежаванні былі зняты і па ўсёй Беларусі пачалі вяртаціа вернікам раней зачыненыя ды будавацца новыя храмы. А вырашылі іх проста — за кароткі час наштампавалі плойму новых святароў, прапусціўшы іх праз розныя скарочаныя курсы, дзе давалі толькі нейкі мінімум, неабходны для практычнага служэння.

Мне самому ў свой час давялося воляй лёсу за гэтым непасрэдна назіраць.

На радзіме майго бацькі, у вёсцы Рубель на Століншчыне, нават у савецкія гады ніколі не зачынялася царква, і такім чынам так ці інакш захоўвалася неперарыўная рэлігійная традыцыя. Гэта, відаць, непасрэдна паспрыяла таму, што многія рубельскія хлопцы ў адпаведны час імгненна зарыентаваліся ў сітуацыі і сталі масава на гэтыя курсы запісвацца ды іх заканчваць. Пра пакліканне гаворкі ў большасці выпадкаў не ішло, бо далёка не ўсе са свежавыпечаных «спецыялістаў» прымалі ў выніку сан — прыглядаліся яшчэ, на які прыход можна разлічваць.

Калі ў заходніх рэгіёнах — то цудоўна, а вось на ўсход ніхто надта не хацеў. Асабліва кепскай славай карысталася Віцебская вобласць (трэба думаць, без яе заходняй часткі), дзе ўсё, паводле чутак (відаць, неаднаразова пацверджаных і практыкай), было ўвогуле цёмна і беспрасветна. І калі туды пагодзішся пайсці, то будзеш тады «і на хлеб пазычаць». Некаторыя і адмаўляліся — сконччыўшы курсы, вярталіся на радзіму і працягвалі займацца ранейшымі справамі.

Але нават і пасля адсеву рубельскіх бацюшак аказалася ў выніку столькі, што яны сталі вядомыя па ўсёй Беларусі. Перадусім сваёй усюдыіснасцю. Да гэтага часу ад людзей з розных куткоў Беларусі чую, што і там служыць бацюшка з Рубля, і там, і там...

Але пры гэтым крайне рэдка сустракаюцца станоўчыя характарыстыкі іх пастырскай дзейнасці. Бо для пераважнай большасці гэтых людзей святарства было не пакліканнем, а проста атрыманнем даходнага і не надта клопатнага працоўнага месца. Адпаведна, праз гэта адбываецца дыскрэдытацыя ўсёй царквы — бо людзі ж усё бачаць. Калі сам святар праз царкву толькі зарабляе грошы — то як людзям успрымаць яго ў якасці маральнага аўтарытэта?

Шчыра кажучы, мне вельмі падабаецца, што Каталіцкі касцёл у Беларусі прынцыпова не пайшоў раней і не ідзе цяпер падобным шляхам.

Бо гэта, у адрозненне ад Праваслаўнай царквы, дазваляе яму трымаць належны маральны і інтэлектуальны агульны ўзровень, не ператвараючы служэнне Богу ў поўную прафанацыю. Не сумняюся, што і рэальны працэнт практыкуючых вернікаў сярод каталікоў куды большы, чым сярод праваслаўных, у значнай ступені і дзеля гэтага.

# Дзе купіць лабутэны ці, дакладней, любутэны ў Мінску

Кліп на песню пра лабутэны групіроўкі «Ленінград» за тры тыдні на *YouTube* прагледзелі больш за 33 мільёны разоў.

Лабутэны — гэта расійская народная назва жаночых туфляў брэнда *Christian Louboutin* (Крысціян Любутэн). Яны вылучаюцца высачэзным тонкім абцасам і чырвонай падэшвай.

Абутак прыгожы, якасны і нятанны: майстры выкарыстоўваюць аксаміт і экзатычную скуру, стразы «Свароўскі» і іншыя дарагія матэрыялы.

Пунсовая падэшва — зарэгістраваны гандлёвы знак брэнда.

Дызайнер сцвярджае, што пры распрацоўцы гэтага абутку ён браў за аснову чаравікі для прафесійных танцаў, таму, нягледзячы на высокі абцас, хадзіць у ім вельмі зручна.



*Louboutin* выпускае таксама і іншы абутак: боты, бацільёны, басаножкі і нават кеды.

У Мінску *Louboutin* таксама прадаюцца. Сярэдні кошт — 250—650 даляраў за пару.

Можна набыць праз інтэрнэт-краму.

Для больш сціплых патрабаванняў: беларуска-кітайская крама *tao.by* прапануе «рэплікі» — кітайскія лабутэны, за іх давядзецца заплаціць каля ста даляраў.

А сярод прыватных аб'яў можна знайсці чаравічкі сэканд-хэнд ад 200 да 700 тысяч рублёў.

Найбліжэйшае афіцыйнае прадстаўніцтва вядомага брэнда знаходзіцца ў Маскве. «Распродажныя» цэны тут пачынаюцца ад 30 тысяч расійскіх рублёў (прыкладна 400 даляраў).

Пошукавыя рэсурсы суседняй Польшчы на наш запыт выдалі некалькі спасылак на тыя ж далікатна названыя «рэплікі» з коштам 500—700 злотых (120—180 даляраў) за пару.

У Вільні любутэны па інтэрнэт-запыце выяўленыя не былі.

У Кіеве выбар даволі багаты, цэны вагаюцца ад 18 да 52 тысяч грывень (700—2000 даляраў).

Дарэчы, пасля выхаду песні «Экспанат», якая праславіла лабутэны, на маскоўскай выставе «Ван Гог. Палотны, што ажылі 2.0» у пэўныя дні дзяўчаты «ў абутку на шпільках, вышэйшых за 10 см», атрымалі магчымасць наведаць выставу бясплатна.

Крысціян Любутэн між тым заявіў, што на аб'ём продажаў папулярнасць хіта ніяк не паўплывала.

**Яна Ласка**

## Беларускі біятланіст Лядаў: Амерыка — гэта прыгожа, але Расія — вось дзе ёсць сіла

Удзельнік зборнай Беларусі па біятлоне Юрый Лядаў запосціў у *Instagram* фота амерыканскай візы, якую ён атрымаў перад этапам Кубка свету ў ЗША. У кароткім допісе да здымка ён напісаў: «Амерыка, Амерыка — гэта прыгожа, але Расія — вось дзе ёсць сіла». Чытачы акаўнта Лядава адразу задаліся пытаннем: што гэта значыць? Можа, Беларусь — гэта сіла?.

Юрыю Лядаву 28 гадоў, ён нарадзіўся ў Мінску. Ад 2009 года выступае за нацыянальную зборную Беларусі па біятлоне. Сёлета Лядаў не набраў яшчэ ніводнага пункта ў агульным заліку Кубка свету. Найлепшым яго вынікам было 68-е месца ў Хахфільцэне.

**ЗП**






## Помста на 70 мільёнаў. Дзяўчыне распісалі новы аўтамабіль абразамі

Распісаны фарбай «Нісан» быў заўважаны на сэрвісным цэнтры маркі ў Мінску — кіроўца-дзяўчына прыехала на перафарбоўку аўто. З дапамогай балончыка з чырвонай фарбай на кузаў нанеслі абразы. Цяпер на аўтамабілі красуюцца надпісы «пляткарка», «паклёпніца» і г.д.

Па словах прадстаўнікоў афіцыйнага СТА дылера, працы па поўнай перафарбоўцы аўтамабіля будуць каштаваць каля 70 млн рублёў.

Ці звярталася ўладальніца ў міліцыю па факце пашкоджання маёмасці — невядома.

**auto.tut.by**

Кіно

## Гіпноз на службе паліцыі

Рэгрэсія
**Жанр:** трылер
**Рэжысёр:** Алехандра Аменабар
**У ролях:** Ітан Хоўк, Эма Уотсан, Дэвід Цьюліс, Дэван Босцік, Ааран Эшмар, Дэйл Дыкі
Іспанія, Канада, 106 хв.
**Адзнака:** 6

Падчас расследавання справы Анджэлы Грэй дэтэктыў Брус Кінэр вымушаны звярнуцца да псіхолага для ўзнаўлення ўспамінаў яе бацькі Джона Грэя. Сеанс рэгрэсіўнага гіпнозу адкрывае жахлівыя факты — па начах са згоды бацькі над дзяўчынай праводзіліся сатанінскія рытуалы. Жадаючы абараніць дзяўчыну ад пераследу тайнай суполкі, дэтэктыў аказваецца ўцягнуты ў свет акультызму. Тое, чаму ён вымушаны супрацьстаяць, знаходзіцца за мяжой разумення і кідае выклік яго перакананням і веры.

Фільм заснаваны на рэальных падзеях, якія раскрываюць маніпуляцыі з падсвядомасцю. Іспанец чылійскага паходжання, рэжысёр і кампазітар Алехандра Аменабар сам напісаў сцэнар. Маючы «Оскар»-2005 за драму «Мора ўнутры», ён вярнуўся да жанру трылера, з якога пачынаў сваю кар'еру.

Стужка поўніцца штампамі і моцна нагадвае нізкагатункавы фільм жахаў, злёгку прыпраўлены навуковымі фактамі. Прысутнасць псіхолага-гіпнацізёра не ратуе фільм. Атмасфера старанна нагнятаецца, але персанажы выглядаюць плоска і даверу не выклікаюць.

Пераканаўчым выглядае хіба толькі дэтэктыў Кінэр, персанаж Ітана Хоўка. Акцёр не раз намінаваўся на «Оскар» і шмат здымаецца ў трылерах. Дуэт яму склала брытанка Эма Уотсан, выканаўца ролі Герміёны ў франшызе пра Гары Потэра. Роля ахвяры ёй далася нягблага, а на галоўнага маніпулятара яна падобная мала.

Здымкі адбываліся ў канадскіх Антарыа, Таронта і Тотэнхэме. Першы дзень здымак супаў з 25-м днём нараджэння Эмы Уотсан.

**Настасся Уласава**

Рэгрэсія (лац. regressus — зваротны рух) — ахоўны механізм, які з'яўляецца формай псіхалагічнага прыстасавання ў сітуацыі канфлікту ці трывогі. Чалавек несвядома звяртаецца да дзіцячых, інфантыльных узораў паводзінаў, якія, як яму здаецца, гарантуюць лепшую абарону і бяспеку.




Разумных гісторыя вучыць

## «Гасударавы людзі» і «баявыя халопы» існавалі ў Царстве Маскоўскім, у Беларусі такіх не было



Высокія чыноўнікі Беларусі некалькі разоў ужывалі выраз «гасударавы людзі». Экс-міністр Сівакоў так называў найвышэйшых дзяржаўных службоўцаў, а віцэ-прэм'ерка Качанава, здаецца, — усіх работнікаў установ, што фінансуюцца з дзяржаўнага бюджэту.

Хто ж такія «гасударавы людзі» і хто такі «гасудар»?

«Гасударом» у расійскай традыцыі называлі кіраўніка дзяржавы (рас. = «государство»). Адпаведнік слова «гасудар» на старабеларускай мове — «гаспадар». Аднак з часам у беларускай мове любога ўласніка зямлі сталі называць «гаспадаром», кожны сам на сваёй зямлі гаспадар, тады як у Маскові, Расіі, гасудар — гэта цар.

«Гасударавымі людзьмі» ў Расіі, як нам паведамляюць энцыклапедыі, лічыліся асобы, абавязаныя несці вайсковую ці адміністратыўную службу на карысць дзяржавы. Іншая назва іх — «служылыя людзі». Яны належалі да розных саслоўяў, іх аб'ядноўваў абавязак дзяржаўнай службы.



«Гасударавы людзі» ў Расійскім царстве дзяліліся на катэгоры:

— служылых «па ацечастве» (па спадчынным абавязку),

— служылых «па прыборы» (выбары або адборы),

— служылых «па прызыве» — так называлі сялян, якіх бралі ў войска ў ваенны час,

— царкоўных служылых людзей,

— баявых халопаў.

У Беларусі тэрміна «гасударавы людзі» не існавала, арганізацыя дзяржавы была ў нас іншая.

Асноўнымі саслоўямі — папабеларуску лепш казаць «станамі» — у Вялікім Княстве Літоўскім былі шляхта (найбагацейшую яе частку называлі магнатамі, але дэ-юрэ ўся шляхта мела аднолькавыя правы), духавенства, мяшчане, сяляне і жыды. У суседняй Украіне існаваў яшчэ асобны стан «казакі».

Кароль у часы Рэчы Паспалітай юрыдычна лічыўся асобным станам. У адрозненне ад Расіі, грамадзяне яго выбіралі.

У адрозненне ад Расіі, у нас не было паняцця, што дзяржава, краіна і ўвесь яе люд ёсць уласнасцю манарха. У Расіі цару належала і заканадаўчая, і выканаўчая, і судовая ўлада. У нас кароль ажыццяўляў толькі выканаўчую ўладу.

Усе грамадзяне — шляхта — былі свабоднымі людзьмі, але ўзамен мелі абавязак абароны айчыны ў ваенны час.

Але на дзяржаўную службу ў мірны час яны ішлі толькі па жаданні, абавязку такога не было.

У тым адрозненне расійскага ладу ад вэкаэлаўскага, беларускага.

**Андрэй Дынько**

# «Клёпа, чаму мяне Божачка не любіць?»

Гісторыя акцёркі, якая працуе клоўнам у дзіцячым анкалагічным шпіталі.

Чацвёрты год дзве акцёркі з Тэатра лялек працуюць клоўнамі ў Цэнтры дзіцячай анкалогіі. Пра вельмі дарослыя пытанні, якія задаюць ім дзеці, і пра тое, як дапамагае беларуская мова, распавяла **Дзіна Іванова** (доктар Клёпа).




Клоўны дурэюць, каб адцягнуць увагу дзяцей ад болю.

**Настрой наўпрост уплывае на выздараўленне, і ўсмешка — гэта вельмі важная таблетка**

### Я пераключаю дзетак і бацькоў з сумнага канала на вясёлы

«Мы працуем у дзіцячым хоспісе ў Бараўлянах пры супрацоўніцтве з швейцарскім фондам «Тэадора», — расказвае спадарыня Дзіна. — Наша праца называецца «доктар-клоўн». Мы працуем у белых халатах, як у дактароў. Толькі нашы — асаблівыя. На спіне напісаныя нашы імёны: я доктар Клёпа, а **Яна Агеенка** — доктар Янка. Пад гэтымі імёнамі нас там і ведаюць.

Калі быў кастынг, у нас пыталі, чаму мы хочам гэтым займацца. Я адказала, што ўсё жыццё я дарыла радасць здаровым дзеткам, якія могуць прыйсці ў тэатр. А цяпер я б хацела, каб тэатр прыйшоў да дзяцей, якія, на жаль, абдзеленыя ўсім.

Для сябе я вырашыла: я працую пультам і пераключаю дзетак і іх бацькоў з сумнага канала на вясёлы й смешны. Дапамагаю ім эмацыйна пераключыцца, зрабіць так, каб яны ўсміхаліся, смяяліся.

Не заўжды гэта ўдаецца. Часам дзіця ляжыць у палаце пасля кропельніцы і лазернага апраменьвання — яно ну проста ніякае! І ты падыходзіш да яго, гладзіш па ручцы, пачынаеш гуляцца з цацкамі, каб неяк адцягнуць яго ўвагу ад болю.

Кожны доктар-клоўн мае свой вобраз. Я — Клеапатра, але пакуль маленькая, а таму мяне клічуць Клёпа. У мяне ёсць сабачка, вельмі падобны да жывога, і пісталет. Як я кажу, мой пісцік.

Вобраз маёй калегі — вясковая цётачка. На яе строі — кветачкі, матылькі, пчолкі, багоўкі. Доктар Янка прыскоквае ў палату на козачцы.

Часам яна пераходзіць на беларускую мову, і нават на трасянку. І калі дзеці, асабліва мамы, чуюць родную мову, Янка адразу становіцца для іх родным чалавекам. Да яе падсядаюць, пачынаюць размаўляць. Мамы таксама пераходзяць на трасянку, так яны вяртаюцца ў свой свет, у сваё дзяцінства. Магчыма, у сваё маленькае мястэчка, з якога яны родам. І хоць доктар Янка нясе нейкую бздуру пра рыбалку й грыбы, ёй давяраюць».

### Я бачыла ўсмешку дзіцяці, якое ўжо адыходзіць

«Часам праз гульню ўдаецца неяк адцягнуць увагу дзяцей ад іхняга болю ці ўгаварыць дзіця хоць нешта з'есці. Але звычайна размовы пра ежу — гэта табу. Бо калі дзіця адпраўляюць на апраменьванне — гэта значыць, што тры дні яму нельга нічога есці.

А калі яно вярнулася з працэдуры, у яго ўся слізістая абалонка абпаленая: ссохлыя вусны, чорны язык. І яму вельмі балюча глытаць. І калі праз гульню ўдаецца ўгаварыць хоць нешта з'есці, мы бачым удзячныя вочы маці ў слязах.

У дзяцей строгая дыета, і ім шмат чаго нельга. Аднойчы ў дзяўчыны ў аддзяленні транспланталогіі я спытала, пра што яна марыць. І праз шкло, за якім яна сядзіць, яна намалявала сала.

Ёсць іншыя табу. Калі нас рыхтавалі да працы, то папярэдзілі, што пра многія рэчы нельга гаварыць. Нельга пытаць: дзе твае мама і тата? Можа, у дзіцяці няма нікога. Ні ў якім разе нельга іх шкадаваць — з імі трэба размаўляць як са звычайнымі дзецьмі.

Аднойчы быў выпадак. Чарговы абвал рубля, усе бегаюць з гэтымі грашыма. А я ў той дзень была ў дзіцячым хоспісе. І там ляжыць хлопчык, ён ужо адыходзіць. І мне кажуць, каб я нават да яго не заходзіла. А я пазнала яго — памятала яшчэ па шпіталі. Ён ляжыць у найцяжэйшым стане: увесь у трубачках, ледзь галавой варушыць.

Я зайшла ды пачала гаварыць з ім. І ён пазнаў мяне па голасе. З вялікімі высілкамі павярнуў галаў, ледзь-ледзь сфакусаваў вочы на мне. А я працягвала нешта гаварыць яму, і тады ён усміхнуўся. Для мяне тая ўсмешка дзіцяці, якое ўжо адыходзіць, каштавала ўсіх грошай на свеце.

Калі я выйшла, на калідоры стаялі прадстаўнікі з Нямеччыны. Яны бачылі ўсё гэта, намагаліся нешта казаць мне, дзякавалі і плакалі. А я была настолькі спустошаная, што сказала: «Ведаеце, вас супакойваць я ўжо не буду. Давайце адзін — у левы кут, другі — у правы». І гэтак таксама вывела іх са складанага стану».



Дзіна Іванова (справа) і Яна Агеенка (злева) працуюць разам і ў Тэатры лялек, і пры фондзе «Тэадора».

### Дзеці задаюць вельмі дарослыя пытанні

«Як развесяліць цяжкахворых дзяцей? Гэта можна зрабіць простымі ды дурнымі спосабамі. Заходзім часам з Янай у палату, а там усе сядзяць, утаропіўшыся ў ноўтбукі ды планшэты. Мы разумеем, што дзеці не пойдуць на кантакт, і пачынаем імправізаваць, дурэць. Праз нейкі час яны пачынаюць асцярожна пазіраць на нас, пакуль нарэшце не засмяюцца, не пераключацца з камп'ютараў на нас.

Нас часта клічуць, калі дзіцяці трэба зрабіць нейкую балючую працэдуру і яно ажно крычыць ад болю. І ты тады крычыш разам з ім, але дурным голасам, каб яму стала смешна.

Але як бы мы іх ні весялілі, дзеці ў такіх шпіталях вельмі рана становяцца дарослымі, вельмі рана задаюць сур'ёзныя пытанні, на якія часам няма як адказаць. Аднойчы маленькая дзяўчынка чатырох год, што хадзіла ўвесь час з кропельніцай, узяла маю руку, паглядзела ў вочы і спытала: «Клёпа, а чаму мяне Божачка не любіць? Хіба я нешта дрэннае зрабіла? Калі і так, я ж незнарок. Калі і так, я ж не ведала, я не хацела! Чаму ён мяне не любіць, чаму я хварэю?»

Калі б гэта быў першы год маёй працы, я б разгубілася. Я б упала на падлогу ды раўла. Але швейцарцы нас шмат чаму навучылі. І я адказала дзяўчынцы: «Дашачка, я на гэтае пытанне не ведаю як адказаць. Але адну рэч я ведаю дакладна: я цябе вельмі люблю і ты для мяне вельмі важная».

Нам кажуць, што нельга прывязвацца. Але ты ўсё адно прывязваешся, і калі прыходзіш чарговым разам, а табе кажуць, што дзіця ўжо адышло, становіцца вельмі балюча.

### Мамы для мяне — вялікія дзяўчаткі, таты — вялікія хлопчыкі

Мы размаўляем не толькі з дзецьмі, але і з бацькамі. Вось стаіць маладзенькая матуля. Ёй 20 год, а яе 3-месячнаму дзіцяці ўжо паставілі дыягназ — анкалогія. Ты бачыш звар'яцелыя вочы й разумееш, што трэба яе неяк зварухнуць з гэтай кропкі.

Тады я пачынаю задаваць ёй розныя ненармальныя пытанні: «Колькі ўнукаў ты гатовая выгадаваць? Ты ведаеш, што падгузнікі дарагія? Ты думаеш, як твайму дзіцяці на ўсіх дзяцей купіць падгузнікі? Або ты скнара?» Так я стараюся пераключыць яе на будучыню.

З бацькамі я размаўляю ў вобразе. Мамы для мяне — вялікія дзяўчаткі, таты — вялікія хлопчыкі. Я заходжу ў палату і пытаю ў дзяцей: «Вось гэтая вялікая дзяўчынка, ці добра яна сябе сёння паводзіла? І зубы пачысціла? І не хуліганіла? Не трэба яе ў кут ставіць?» Маці ўсміхаецца і на нейкі час выключаецца са сваёй бяды.

Тое самае і з дактарамі. Неяк мы выйшлі пакурыць з галоўурачом. А ён толькі паўтарае: «Ён не павінен быў памерці». У яго вочы поўныя слёз, спіна мокрая. Ён чатыры гадзіны стараўся рэанімаваць хлопчыка, які ішоў на папраўку. Але ў нейкі момант нешта пайшло не так.

І вось стаіць галоўурач, дрыжыць, па шчоках слёзы цякуць. Яны ўсе там толькі гэтым і жывуць, але калі бачаць нас, клоўнаў, адразу ўсміхаюцца. Мы іх таксама пераключаем на іншы канал.

### У свеце шмат рэчаў, якія трэба паспець зрабіць

На жаль, у нас не праводзяцца даследаванні, як адбываецца паляпшэнне здароўя. А за мяжой гэта ўжо даўно высветлілі. У прыватнасці, у Ізраілі праводзяць шмат эксперыментаў, якія пацвярджаюць: псіхалагічны настрой наўпрост уплывае на выздараўленне. І ўсмешка — гэта вельмі важная таблетка. І гэта наша праца — быць такой таблеткай.

А вось адкуль звычайным людзям браць гэтыя ўсмешкі? У нашай цудоўнай краіне не сустрэнеш чалавека з усмешкай. Усе ідуць па вуліцах з каменнымі тварамі, заклапочаныя нечым. І калі ты каму-небудзь усміхнешся, падумаюць, што ты ці знаёмая нейкая, ці дурная. Як можна жыць з такім настроем?

А яшчэ ж трэба самім гэта ўсё перажываць. Мы вось у тэатры падсілкоўваемся. Тут увесь час здараюцца нейкія смешныя рэчы падчас рэпетыцыяў, а таму ты ідзеш у шпіталь ужо з добрым настроем, якім хочацца падзяліцца.

Увесь час трэба неяк пра нешта новае даведвацца: прачытаеш кніжку цікавую, што-небудзь неверагоднае ў інтэрнэце знойдзеш, пра што потым распавядзеш дзецям. Мы самі такім чынам развіваемся. Бо, каб нечым падзяліцца, трэба мець. А каб мець, трэба шукаць. І гэта такі бясконцы працэс.

А калі выходзіш са шпіталя — губляеш вельмі шмат эмацыйна. І тут ужо трэба ўмець аднавіцца. Я вось штораз гуляю ў прэферанс на камп'ютары. Пэўны час трэба, каб мяне ніхто не чапаў. Так мой мозг пераключаецца на іншы лад. Таксама ў мяне ёсць пухнаты кот Томас — самы сапраўдны антыстрэс.

А Яна ходзіць на прыроду. Яна можа абняць любімае дрэва, пайсці ў грыбы. Так ты пачынаеш разумець, што свет цудоўны і ў ім шмат рэчаў, якія трэба паспець зрабіць. Паназіраць, як узыходзіць сонца, пагаварыць са сваім рэхам увечары.

Пасля анкалогіі наша светаўспрыманне вельмі змянілася. Мы сталі па-іншаму ставіцца да многіх рэчаў. Шмат што ў жыцці можна змяніць. Нешта зламалася, дык і халера з ім, можа, табе гэтая рэч і не патрэбная зусім. А іншыя рэчы ты зменіш не ў стане, але можаш трошкі дапамагчы, аблягчыць чалавеку адыход».

**АТ, радыё «Свабода»**

# У выніку шматхадовай аперацыі міліцыі на БелАЗе абясшкоджаная злачынная групоўка

Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі (ГУБЭЗ) правяло аналіз ценявога рынку рэалізацыі запчастак і агрэгатаў да аўтамабільнай і кар'ернай тэхнікі, які дзейнічае на тэрыторыі Беларусі і Расіі. Выявілі, што агульныя ценявыя абароты ад рэалізацыі крадзеных запчастак БелАЗа складалі да 1 млн даляраў за год.

Пасля гэтага вялася карпатлівая праца па праверцы аператыўнай інфармацыі аб крадзяжах на прадпрыемстве. Аператыўнікі выявілі схему крадзяжу запчастак. Пасля адсачылі каналы збыту і легалізацыі выкрадзеных рэчаў з выкарыстаннем фіктыўных дакументаў.

Следчыя прыйшлі да высновы, што на заводзе дзейнічала арганізаваная злачынная група, у склад якой уваходзілі былыя і дзейныя работнікі прадпрыемства, у тым ліку тыя, хто ахоўваў тавары і вёў іх улік.

Паміж удзельнікамі групы былі дакладна размеркаваныя ролі. Адны з выкарыстаннем пад'ёмных механізмаў ажыццяўлялі падрыхтоўку і пагрузку запчастак (асобныя вагой больш за 800 кг). Іншыя з выкарыстаннем арандаванага грузавога аўтатранспарту вывозілі выкрадзенае з ахоўнай тэрыторыі. Трэція забяспечвалі бесперашкоднае і свабоднае перасоўванне грузу, доступ на тэрыторыю завода грузавой тэхнікі.



Злачынцы нават стварылі групу аховы, якая выстаўляла пасты з відэаназіраннем за некалькі кіламетраў!

Працавалі зламыснікі выключна ў начны час выхаднога дня, для сувязі выкарыстоўвалі радыёстанцыі і мабільныя тэлефоны са зменнымі сім-картамі.

Выкрадзеную маёмасць яны вывозілі ў загадзя падрыхтаваныя часовыя склады, размешчаныя на падворку прыватнага дома адной з вёсак непадалёк ад Жодзіна. А ўжо стуль па фіктыўных дакументах іх адпраўлялі ў Расію.

**Злачынцы нават стварылі групу аховы, якая выстаўляла пасты з відэаназіраннем за некалькі кіламетраў ад завода!**

Першую аперацыю па затрыманні найбольш актыўных удзельнікаў злачыннай групы супрацоўнікі ГУБЭЗ пры падтрымцы спецпадраздзялення «Алмаз» правялі ў лістападзе 2015 года. У момант разгрузкі ў «адстойніку» на месцы злачынства затрымалі шасцярых выкрадальнікаў дэталяў. Злачынцы аказалі тады актыўны супраціў, дзейнічалі дзёрзка. Яны кінулі груз больш як на 600 млн рублёў і спрабавалі ўцячы на аўтамабілі «БМВ Х5» (супердарагая мадэль). Для гэтага нават пратаранілі міліцэйскі транспарт.

Міліцыянты вымушаныя былі адкрыць агонь па машыне і злачынцаў усё ж затрымалі. Выкрадзеную прадукцыю вярнулі на завод.

Крыху пазней затрымалі яшчэ аднаго ўдзельніка злачыннай групы, а літаральна днямі затрыманыя яшчэ двое падазраваных — работнікі БелАЗа.

Распачата крымінальная справа, фігурантамі якой з'яўляюцца дзевяць чалавек.

Семярым падазраваным выстаўленае абвінавачанне, яны пад вартай. Ім пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі. Астатнія знаходзяцца ў статусе падазраваных.

Цяпер спецыялісты праводзяць інвентарызацыю, вынікі якой будуць далучаныя да матэрыялаў крымінальнай справы. Следства вывучае дакументацыю, якая тычыцца механізму ўліку і кантролю руху дэталяў на прадпрыемстве.

На маёмасць падследных накладзены арышт. Расследаванне працягваецца.

Агульная сума шкоды, нанесенай прадпрыемству, можа вымярацца мільёнамі даляраў.

Цяпер ГУБЭЗ разам з рэвізорамі Камітэта дзяржкантролю праводзяць комплекс праверак службовых асоб ААТ «БелАЗ-Сэрвіс» — структурнага падраздзялення холдынга ААТ «БелАЗ».

Ужо вядома, што дырэктар ААТ «БелАЗ-Сэрвіс» арганізаваў камерцыйную дзейнасць афіляваных структур, дзе работнікамі з'яўляліся яго сваякі і блізкія сябры. Міліцыя падазрае, што ён па відавочна завышаных цэнах арганізаваў закуп, рамонт і пастаўку запасных частак да кар'ернай тэхнікі за кошт уласных сродкаў ААТ праз камерцыйныя структуры. У выніку прадпрыемства страціла амаль мільярд рублёў. Калі суд устане на бок следства, мужчына можа сесці на тэрмін да 10 гадоў. Ён адхілены ад пасады кіраўніка.

**Уладзіслаў Швядовіч**

# Падрэзала мужа за селядзец

У Гомелі **пачалося слуханне** крымінальнай справы 66-гадовай жанчыны. Яна пырнула мужа нажом за тое, што ён купіў за яе грошы рыбу.

Сямейная пара вяла бюджэт паасобку.

Муж быў на пенсіі, але яшчэ рабіў. Ён акурат чакаў пералічэння заробку за чарговы месяц. Грошай у яго на картцы не было. І захацелася ж яму селядца. Жонка пазычыла яму 200 тысяч на селядзец. Прычым пазычыла грошы з умовай, што той патраціць іх, толькі калі яго заробак яшчэ на картку не пералічаны.

Даўшы згоду спачатку праверыць сваю картку, а пасля ўжо купляць, пенсіянер выйшаў з хаты. Ён не ведаў, што жонка назірае за ім з балкона.

І яна ўпільнавала, што мужчына абмінуў банкамат, а пайшоў адразу ў краму.

Дадому мужчына вярнуўся з рыбай. На пытанне жонкі, ці атрымаў заробак, даў адмоўны адказ.

Гэта абурыла жанчыну, і яна пачала мужа сварыць. Слова за слова — і жанчына пырнула мужа ў бок кухонным нажом. Мужчына ўцёк ад яе ў міліцыю, адкуль яго шпіталізавалі. Застаўся жывы, на сёння ўжо выздаравеў.

А жанчыне выстаўленае абвінавачванне за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання. Ёй пагражае 8 гадоў турмы. На судзе пенсіянерка цалкам прызнала сваю віну.

**УШ**

# Яшчэ двое ўчадзелі, гэтым разам у кавярні

У слуцкай кавярні загінулі дзве супрацоўніцы. Паводле папярэдняй версіі, жанчыны атруціліся чадным газам.

Целы былі знойдзеныя 5 лютага ў памяшканні харчаблока кавярні па вуліцы Серпухаўскай у Слуцку. Напярэдадні кавярня працавала па спецзамове, жанчыны гатавалі ежу для мерапрыемства. Целы знайшла цырульніца, сяброўка адной з загінулых. Яна працавала побач.

Адна з загінулых тыдзень таму засялілася ва ўласную кватэру, у другой сіротамі засталіся двое дзяцей.

Мясцовыя жыхары занепакоеныя тым, што адбылося, кажуць, што чулі пра ўцечку газу даўно, а на гэта ніхто не звяртаў увагу, паведамляе тэлеканал СТВ. Адна з суседак вельмі хвалюецца, бо збіралася ў гэтай кавярні ў маі святкаваць юбілей.

Пакуль што адміністрацыя кавярні ад якіх-небудзь каментароў катэгарычна адмаўляецца.

Па факце службовай халатнасці, якая прывяла да гібелі двух чалавек, распачатая крымінальная справа па арт. 428 КК. Старшынёй Следчага камітэта яна ўзятая на асабісты кантроль. Разглядаюцца розныя версіі здарэння, у тым ліку атручэнне чадным газам.

Нагадаем, падобная трагедыя адбылася ў Барысаве 27 студзеня. Паводле папярэдняй версіі, менавіта чадны газ забіў шэсць чалавек, у тым ліку дваіх дзяцей.

**УШ**

# Як студэнтка дапамагла затрымаць сэксуальнага маньяка

Выпадак адбыўся **пад Баранавічамі**.

Студэнтка 1-га курса Брэсцкага ўніверсітэта вярталася з вучобы дадому ў вёску Паўлінава.

Выйшла на станцыі Грыцавец і збіралася ісці звычайнай дарогай. На станцыі было пуста, толькі адзін мужчына самотна стаяў з краю. Раптам ён падышоў да дзяўчыны і прапанаваў ёй заняцца сэксам. Пачаў мацаць дзяўчыну за грудзі, палез рукамі пад вопратку, у трусы.

Спачатку дзяўчына была ў шоку, пасля пачала адбівацца і крычаць, што выкліча міліцыю. Тады мужчына адышоў на пару крокаў і моўчкі глядзеў на істэрыку дзяўчыны. Перапужаная ахвяра пабегла дадому.

Аб выпадку дзяўчына вырашыла нікому не расказваць. Пазней аператыўнікі ўбачаць, што пра дзіўны інцыдэнт маладая асоба толькі напісала ў вайберы найлепшай сяброўцы і свайму хлопцу.

Праз два тыдні дзяўчына зноў ехала наведаць бацькоў. На пероне студэнтка... зноў убачыла постаць знаёмага прыставакі.

Ізноў ён палез са сваімі непрыстойнымі прапановамі інтымнага характару. Але гэтым разам на станцыі былі людзі. Тут ды дзяўчына і пабегла. Стуль патэлефанавала свайму хлопцу і засталася чакаць яго.

Маладыя людзі пайшлі ў міліцыю.

«Асабліва нас насцярожыў той факт, што па апісанні выгляд мужчыны супадаў з прыкметамі маньяка, вышук якога быў на асаблівым кантролі ў Міністэрстве ўнутраных спраў», — пракаментаваў старшы аперупаўнаважаны АУР Баранавіцкага АУСТ капітан міліцыі Арцём Мацяс. Менавіта ён, а таксама начальнік АУР маёр міліцыі Дзмітрый Логіш і оперупаўнаважаны старшы лейтэнант міліцыі Аляксандр Варонка пазней затрымаюць патэнцыйнага злачынцу.

Марына паведаміла міліцыянтам, што мужчына быў на ровары цёмна-зялёнага колеру, прычым пафарбаваны ровар быў самаробным спосабам, а не заводскім. Аператыўнікі адпрацоўвалі ўсе бліжэйшыя вёскі. У адной з пасялковых крамаў грамадзянка па прыкметах падказала месца жыхарства падобнага па апісанні мужчыны.

Па ўказаным адрасе дзверы міліцыянтам адчыніла жанчына, якая трымала маленькае дзіця на руках. Гэта была жонка падазраванага, яна пацвердзіла, што ў сям'і сапраўды ёсць цёмна-зялёны ровар. Муж у гэты час знаходзіўся ў вёсцы Русіна, дапамагаў ставіць помнік. Там міліцыя яго і павязала.

Дзяўчына апазнала свайго «кавалера». Той амаль адразу прызнаўся ў зробленым. Як аказалася, мужчына раней ужо быў асуджаны за гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару, а таксама за крадзеж. І вось, праз паўтара года пасля выхаду на волю ён зноў распусціў рукі.

Нядаўна адбыўся суд, мужчыну прызналі вінаватым. Ён атрымаў 9 гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

# Маладая сям'я адмовілася ад хіміі і пластыку ў побыце: вушных палачак, пракладак, пакетаў

Інтэрв’ю з Аўгіняй Манцэвіч — яны з мужам пераехалі з Мінска ў вёску Лохаўшчына Валожынскага раёна.


Аўгіня і яе муж Верасень у сваім кругасветным падарожжы.

**Чалавеку трэба нашмат менш, чым ён спажывае.**

Пластык шкодзіць навакольнаму асяроддзю.

Аўгіня Манцэвіч — адна з нешматлікіх беларусак, што паступова адмаўляецца ад такіх рэчаў. На Захадзе экалагічна свядомых людзей нямала, але большасці нашых людзей пакуль не да таго. Толькі сэрца баліць, калі ідзеш па лесе, а там — пакеты, ПЭТ-бутэлькі...

Аўгіня знакамітая сваімі вандроўкамі, пра якія распавядала ў перадачы «Аўтаспынам па Беларусі».

Разам са сваім мужам, Верасянем, яна аб’ехала вялікую колькасць краін па ўсім свеце.

Цяпер яны жывуць у вёсцы Лохаўшчына (Валожынскі раён). Час ад часу ў сваім фэйсбуку яна паведамляе пра свае дасягненні ў сферы захавання навакольнага асяроддзя, што выклікае розную рэакцыю ў яе фэйсбучных сяброў. З гэтай нагоды «НН» пагутарыла з ёй, каб разабрацца ва ўсіх тонкасцях і карысці такой пазіцыі для здароўя і прыроды.

**НН: Пачнём з пластыкавых ватных палачак. Чаму вырашылі адмовіцца ад іх? Сучасныя пракладкі і памперсы таксама неяк кепска ўплываюць на нашую экалогію?**

**АМ:** Часам мы выкарыстоўваем столькі пластыкавых рэчаў і нават не заўважаем гэтага. Мой муж — гідрагеолаг. Падчас практыкі ва ўніверсітэце ён наведваў ачышчальныя збудаванні. Дык вось, абсалютную большасць смецця, якое трапляе ў каналізацыю, складаюць менавіта пластыкавыя ватныя палачкі. Можа быць, я б ніколі і не задумалася пра тое, каб перастаць імі карыстацца. Але мужаў досвед прымусіў задумацца, ці патрэбныя мне гэтыя палачкі. У дзяцінстве я карысталася звычайнымі запалкамі — накручвала на іх ватку. І атрымлівалася зусім не горш. І нашмат экалагічней. Пластык будзе гніць вечна, а дрэва — узнаўляльны рэсурс. Да таго ж уявіце маштаб: колькі людзей штодня карыстаюцца пластыкавымі ватнымі палачкамі. Яны ідуць адразу ў сметніцу. Гэта ж колькі пластыкавага смецця мы плодзім усяго толькі дзеля таго, каб пачысціць вушы ці паправіць макіяж!

Гігіенічныя пракладкі ў сваёй большасці, як і падгузнікі, вырабляюцца з матэрыялу, якому трэба ад 100 да 500 год, каб згнісці. Прыбіраючы ў сябе на ўчастку, я знайшла закапаны скарб — склад падгузнікаў. Не ведаю, колькі год яны праляжалі ў зямлі, але яны нават не пачалі раскладацца. Таксама можна ўявіць сабе маштаб катастрофы, колькі жанчын штомесяц выкідаюць не менш за дзясятак пракладак, колькі бацькоў па некалькі год штодня выкідаюць падгузнікі. І ўсё гэта нікуды не дзяецца. Яно ўсё застаецца на нашай Зямлі.

Можна дыскутаваць наконт шкоднасці пракладак і падгузнікаў, але гэта ўжо асабістая справа кожнага. Я, напрыклад, ведаю пра бавоўняныя тампоны, шматразовыя пракладкі і падгузнікі, а таксама метад высаджвання дзяцей.

**НН: Я шмат чытаў, што людзі адмаўляюцца ад пакетаў у крамах, але што канкрэтна кепскага ў іх?**

**АМ:** Гэта лішняе смецце. Тварог, напрыклад, мы з’ядаем, а пластыкавы пакунак застаецца. Назаўсёды. Таму ідэальны прадукт — на вагу, той, які можам упакаваць ва ўласную тару. У крайнім выпадку — папяровыя пакункі, якія згніюць у смецці за адзін сезон. На жаль, у Беларусі

## Раней беларусы карысталіся звычайнымі запалкамі — накручвалі на іх ватку. Чым гэта горш за пластыкавыя вушныя палачкі?

з гэтым усё вельмі дрэнна. Як ні дзіўна, я настальгую па савецкіх часах, калі прыходзіла ў краму, мне адразалі кавалак масла і заварочвалі яго ў паперу. Калі піражок клалі на кавалак паперы, а не ў пластыкавы пакет. Вядома, гэта пэўная нязручнасць. Але відавочная выгада для экалогіі.

Вельмі часта, калі я не кладу садавіну ці гародніну ў пакеты, на касе мне ўсё адно яго сунуць. А на маё «не трэба» кажуць: «Яны ж бясплатныя». Дарэчы, бясплатныя пакеты — абсалютнае зло. Я лічу, калі ўжо яны ўсё адно існуюць, яны павінны каштаваць грошай. Каб чалавек, перш чым пакласці прадукты ў чарговы пакет, задумаўся. Прывяду прыклад. Патагонія — вялізная раўнінная частка Аргенціны. Там няма ніякай расліннасці — толькі нізкія кустарнікі. І пастаянна дзьмуць моцныя вятры. І гэтыя вятры разносяць тыя самыя пластыкавыя пакеты. Уявіце сабе: вялізная тэрыторыя, пакрытая кустарнікамі, і амаль на кожным кусціку матляецца ад ветру пластыкавы пакет. І вось мы прыязджаем у горад Рыа Гашэгас, што ў Патагоніі. А там і ў ваколіцах — чыста. Ніякіх пакетаў. Аказваецца, гарадскія ўлады забаранілі выкарыстанне пластыкавых пакетаў у крамах. Там іх не тое што не раздаюць, а нават не прадаюць. Толькі торбы з тканіны. Хочаш закупіцца ў краме — прынось торбу з сабой.

**НН: Што тычыцца касметыкі, калі не сакрэт, адмовіліся ці чымсьці замянілі?**

**АМ:** Я не карыстаюся касметыкай. Максімум — крэм для твару.

**НН: Таксама вы пішаце пра тое, што адмаўляецеся ад залішняй язды на аўто. Як гэта практычна атрымліваецца?**

**АМ:** Мяне здзіўляюць мінчукі, якія штодня ездзяць на працу на сваёй машыне. Разумею, калі вы жывяце за горадам і там не ходзіць нармальна транспарт. Але ж у Мінску з любога пункта ў любы пункт з самага рання да позняй ночы можна дабрацца на грамадскім транспарце. Я, напрыклад, калі мне не трэба купляць нічога буйнога, езджу ў Мінск на цягніку. Цягнікі і аўтобусы ўсё роўна ходзяць. Такім чынам, мы выкарыстоўваем нашмат менш паліва і нашмат менш забруджваем паветра. У Каліфорніі, напрыклад, на дарогах ёсць адмысловая выдзеленая паласа для машын з двума і больш пасажырамі. Гэта падштурхоўвае людзей аб’ядноўвацца і не ехаць кожнаму на сваім аўто. Проста, зручна і экалагічна.

**НН: Якая была матывацыя жыць больш экалагічна?**

**АМ:** Матывацыя простая: хочацца жыць на чыстай зямлі, дыхаць чыстым паветрам, піць чыстую ваду. Мы з мужам шмат падарожнічалі і бачылі, да чаго прыводзіць неахайнае выкарыстанне пластыку. І многія людзі, на маю думку, яшчэ не навучыліся ім карыстацца і не ўсвядомілі маштаб трагедыі, да якой вядзе хуткаснае памнажэнне пластыку. Людзі па-ранейшаму выкідаюць пластык, як выкідалі жалеза ці гліну. А ён ізноў жа нікуды не дзяецца.

Мне было прыкра бачыць цудоўнае возера Атытлан у Гватэмале, куды мясцовыя індзейцы выкідаюць пластыкавыя бутэлькі. Мне было непрыемна плаваць у Аравійскім моры ў Індыі, хвалі якога перыядычна прыносілі вечнае смецце. Я ўжо не кажу пра тое, што дыхаць там таксама немагчыма — бо пластык там пастаянна паляць. Калі мы вылятаглі з Індыі, бачылі, як карычневая смуга паступова заставалася ўнізе. І здавалася, толькі Гімалаі ратавалі нас ад распаўсюду гэтай заслоны па ўсім свеце.

Мае сябры, якія пераплывалі акіян, расказвалі пра цэлыя вялізныя выспы смецця ў вадзе. Яно кіруецца плынямі і зблытваецца разам. А куды яму яшчэ дзявацца? Напэўна, там ёсць і вашыя ватныя палачкі, і падгузнікі, і пракладкі.

Па вяртанні з вялікага і доўгага падарожжа мы з мужам пераехалі жыць у вёску. А тут важнасць беражлівага стаўлення да прыроды адчуваецца найбольш востра. Ля мяне не стаіць смеццевы кантэйнер, які штодня спусташае машына. У мяне няма цэнтральнай каналізацыі. Усе мае адкіды застаюцца навідавоку. На маім участку. Ля маёй хаты. Сартаваць смецце тут проста неабходна. Арганіка — у кампост на ўгнаенні, папера — у печ, пластык — асобна ў сметніцу і вывозіць да бліжэйшага кантэйнера. У горадзе, зрэшты, такая неабходнасць таксама ёсць. Але там усё не так навідавоку. Здаецца, выкінуў усё ў сметніцу ці ўнітаз, і яго не стала. А яно застаецца. І магчыма, калісьці павялічыць тую самую смеццевую выспу ў акіяне.

Тое ж з бытавой хіміяй — на вёсцы добра адчуваецца, што ўсе рэчывы, якія я выкарыстоўваю ў сваім побыце, пасля апынуцца на маім агародзе. Таму для мяне важна мінімізаваць выкарыстанне шкоднай хіміі. Напрыклад, лічу бессэнсоўным усякія мыйныя сродкі для падлогі, вокнаў і г.д. Усё гэта цудоўна мыецца звычайнай вадой. І дэзынфікаваць падлогу і сталы не бачу сэнсу.

## Каб памыць посуд, не трэба «Фэры». Ёсць сода, гарчыца

Пакуль большасць бытавой хіміі я замяніла на мыльны арэх. Ён выдатна мые ўсё: валасы, цела, посуд, бялізну, падлогу, упрыгожанні. Вядома, гэта не найлепшы сродак у нашых шыротах, бо мыльны арэх тут не расце. І каб даставіць яго, таксама трацяцца рэсурсы і наносіцца шкода экалогіі. У нас ёсць гарчыца, сода, раствор дрэўнага попелу ды іншыя сродкі. Не ведаю, можа, будзе рэкламай, але я набываю мыльны арэх у краме «Востраў чысціні».



Хата Аўгіні і Верасня ў Лохаўшчыне.



Лохаўшчына, зімовы краявід.

**НН: Ад чаго было найскладаней адмовіцца?**

**АМ:** Самае цяжкае — маральна ўсвядоміць, што, каб памыць посуд, мне не патрэбны «Фэры». Мой досвед паказаў, што ў большасці выпадкаў, каб памыць посуд, дастаткова звычайнай цёплай вады. Ці каб памыць бялізну, мне не трэба карыстацца пральным парашком. Бо ў большасці выпадкаў я мыю адзенне не для таго, каб вывесці нейкія суперстойкія плямы, а каб адмыць штодзённы бруд, пыл, пот. Гэта ўсё таксама выдатна адмываецца звычайнай цёплай вадой.

**НН: Што ў далейшых планах па паляпшэнні экалогіі?**

**АМ:** Вядома, я яшчэ далёка ад свайго экалагічнага ідэалу. Я не фанатык і да ўсяго стаўлюся рацыянальна. Я ўсё яшчэ захоўваю сродкі бытавой хіміі на экстранны выпадак. Але для мяне вельмі важна, што я імі не карыстаюся. Бо няхай пластык проста валяецца дзесьці, а хімія знішчае ўсё жывое вакол.

Але хацелася б і мінімізаваць выкарыстанне пластыкавай упакоўкі. Цалкам зрабіць гэта, думаю, у мяне не атрымаецца. Напрыклад, калі я купляю тую ж зубную пасту ці парашок, пасля мяне застаецца пластыкавае смецце. Можна пазбегнуць гэтага, самой гатуючы зубны парашок у натуральнай тары. Але тады ў мяне ўсё жыццё пойдзе на тое, каб толькі зрабіць сабе зубны парашок і г.д. Я пакуль не гатовая да гэтага. Але тое, што ў маіх сілах, раблю.

Напрыклад, страшна, як шмат людзей карыстаюцца папяровымі насовачкамі, папяровымі сурвэткамі. А гэта ж так проста замяніць на звычайныя насоўкі і сурвэткі з тканіны. Яны шматразовыя і нашмат больш прыемныя ў выкарыстанні.

Таксама ў планах ёсць пераход на незалежныя ўзнаўляльныя крыніцы энергіі. Напрыклад, паставіць вятрак ці сонечныя батарэі.

**НН: Як у Лохаўшчыне ставяцца да вашай ініцыятывы? Як вам жывецца там? Пра што мясцовыя размаўляюць?**

**АМ:** Калі мы толькі пераехалі ў Лохаўшчыну, адразу ўзяліся за разграбанне звалкі, якую стварылі папярэднія гаспадары і суседзі за доўгія гады. Паставілі таблічку «Калі ласка, не кідайце смецце». Цяпер ля нас чыста. Суседзі выкідаюць смецце цяпер за свой хлеў. Часам я прыходжу да іх прыбірацца — не магу глядзець, як у кустах маліны валяюцца абгорткі ад цукерак. Суседзі не разумеюць. Ім нават прапаноўвалі, што будзе прыязджаць смеццевая машына раз на тыдзень — каштаваць будзе штосьці тыпу 8 тысяч у месяц. Яны адмовіліся. Сказалі, што ў іх няма смецця. І самі працягваюць выкідаць яго за хлеў. Можа, у іх разуменні гэта сапраўды не смецце. Але я ўжо не спрачаюся. Яны старыя людзі. Мне прасцей прыйсці і самой прыбраць.

## Палатняную сумку можна насіць год, нашто кожны раз пластыкавы пакет? Бясплатныя пакеты — абсалютнае зло

Важна ўсвядоміць, што гэта глабальная катастрофа. Пластык нікуды не знікае, а толькі назапашваецца. Кожная купленая газіроўка ў пластыкавай бутэльцы павялічвае выспы смецця ў акіяне. Кожнае мыццё галавы шампунем знішчае раслінны і жывёльны свет вакол нас, забруджвае ваду і невядома як уплывае на нашае здароўе. Колькасць алергій у сучасным свеце — таму сведчанне. Па ўсім свеце пачынаюць знікаць пчолы. У ЗША з 60-х колькасць пчол скарацілася ўдвая. У Кітаі людзі ўжо самі рукамі апыляюць расліны. Пчолы вельмі чуллівыя да розных хімікатаў і пестыцыдаў, якія выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы. Такімі тэмпамі хутка не будзе каму апыляць расліны. А калі так здарыцца, падумайце самі, да чаго гэта прывядзе.

**Мікіта Недаверкаў**



Чалавек атрымлівае шмат радасці ад простага жыцця на прыродзе.

# Бахарэвіч напісаў феміністычны раман

Адзін з галоўных прэтэндэнтаў на **Гедройца-2016**.

Група «дзевак без цара ў галаве» захоплівае старажытны замак — сімвал мужчынскага панавання на гэтай зямлі — разам з персаналам і наведвальнікамі. Тры дні яны трымаюць у страху закладнікаў. Што стаіць за гэтым дзёрзкім учынкам?

Напрыклад, стаіць Рука. Пачварная Рука маленькага чалавека, якая з'яўляецца знянацку ў перапоўненым тралейбусе, праціскаецца праз людскую масу і пачынае нахабна мацаць вучаніцу мастацкай школы Лізу, лезці пад спадніцу, у майткі. І так паўтараецца дзень за днём. «Ёй падалося, што яе зараз званітуе — палец быў гнюсны, як чарвяк, а Рука цёплая і настойлівая, чужая, упэўненая, валасатая».

Такія і падобныя гісторыі прыніжэнняў жанчын паўтараюцца старонка за старонкай. Яны звязваюцца ў агульны клубок, каб урэшце жанчыны вайшлі з-пад кантролю.

Кагосьці бацькі з дзяцінства называлі «маралетнімі прастытуткамі». Кагосьці дабрадушны таксіст завёз да сябрукоў на «фазэнду», каб выбіць усё лесбіянства. Усё проста, бо ў «Краіне Замкаў» жывуць «людзі», а недзе побач існуюць «жанчыны».

У «Белай мусе» Бахарэвіч што сілы крычыць пра жаночую роўнасць, пра месца жанчыны ў сучасным свеце, змагаецца з забабонамі мінулага. Гэта феміністычны раман — самы феміністычны ў беларускай літаратуры апошніх гадоў.

Мужчыны ў «Белай мусе» абсалютна ўсе карыкатурныя — ад немца Хольгера Кунцэ, які прыехаў у Беларусь страляць зуброў, да беларускамоўнага Паўлюка. Хіба што адстаўнік-дыверсант свет Міхаіл Юр'евіч крыху выбіваецца з гэтага шэрагу. Увогуле, Бахарэвічу найбольш удаецца выпісаць персанажаў, да якіх ён адчувае калі не нянавісць, то прынамсі агіду.

У «Дзецях Аліндаркі» гэткім быў пісьменнік Міхась Барадаўкін (ён прамільгне і ў новым рамане), які натхнёна будуе прыбіральню на лецішчы. А ў «Белай мусе» як не заўважыць дырэктарку музейнага комплексу Галіну Вітольдаўну Бабец. «Жанчыны выклікалі ў ёй пачуццё пратэсту. Асабліва маладыя. Было ў іх нешта такое... Ну вот как вам сказаць. Такое хітрае і двухсэнсоўнае. Яны нават выглядалі ўсе неяк няправільна. Ну што гэта такое ўсё, на самам дзеле: усе гэтыя губы, цыцкі, лыткі, завушніцы, усмешачкі. Навошта гэта ўсё? [...] Галіна Вітольдаўна любіла, калі на яе крычалі мужчыны. І яны крычалі: мацюкалі, камандавалі, гразілі, грукалі кулаком па стале. І тады Галіну Вітольдаўну апаноўваў такі жар, быццам яе прывязалі і яна не можа паварушыцца, прывязалі і паднеслі да самага нізу жывата расплаўленае жалеза...» Нікога не нагадвае? У мяне дык адразу перад вачыма паўсталі некаторыя высокапастаўленыя жанчыны.

Персанальна для мяне гэта яшчэ кніга яркіх вобразаў. Напрыклад, такіх як зімовы рытуал выбівання дываноў. «Дыван трэба раскласці так, каб быць разам з усімі і пры гэтым ні да кога не быць занадта блізка. Толькі людзі, што выбіваюць на раёне дываны зімовай раніцай на першым сапраўдным снезе, маюць адчуванне гэтай адлегласці. Калі раскласці дыван занадта блізка ад кагосьці — падумаюць, што ты ад іх чагосьці хочаш. [...] А калі размясціцца занадта далёка ад іхніх палеткаў і нівак — падумаюць, што ты не хочаш ад іх нічога, і пакрыўдзяцца». Угледзьцеся ў гэты абрад у сваіх Зялёных Лугах, Шабанах і Кунцаўшчынах — нешта ў гэтым сапраўды ёсць.

З мінусаў я б адзначыў змазаную канцоўку.

З плюсоў — сюжэт. У Бахарэвіча ніколі не было праблемаў з тым, што прынята называць прыгожым пісьмом. А ў «Белай мусе» яшчэ дадаўся я(ка)сны сюжэт, чаго так часта бракуе сучаснай беларускай літаратуры.

Адзін мой сябра, добры знаўца творчасці Альгерда Бахарэвіча, часта паўтарае, што найлепшыя кнігі аўтар напісаў дастаткова даўно — гэта «Ніякай літасці Валянціне Г.» і «Праклятыя госці сталіцы». Маўляў, тыя кнігі — «кроў і цела» ад нашага жыцця. А вось творчасць перыяду часовай эміграцыі называе не самай удалай. Хочаш не хочаш, але за мяжой немінуча адбываецца адрыў ад беларускай штодзённасці і жывой мовы.

Здаецца, пасля вяртання ў Беларусь Бахарэвіч атрымаў новы глыток паветра для творчасці. Пасля не надта ўдалых «Шабаноў» і вельмі асабістай гісторыі «Дзяцей Аліндаркі» свет пабачыў моцны твор. «Белая муха, забойца мужчын» — найлепшая кніга Бахарэвіча, якую мне даводзілася чытаць.

**Зміцер Панкавец**




Альгерд Бахарэвіч. Белая муха, забойца мужчын. — Мінск, «Галіяфы», 2015. Наклад 200 асобнікаў.

# Кастусь і Марыся: гісторыя кахання

Піша гісторык **Васіль Герасімчык.**

Гэта было каханне з першага погляду. Яны маглі стварыць сапраўдную сям'ю, гадаваць дзяцей. Ён мог бы дасягнуць пэўных вышынь на дзяржаўнай службе ці ў прадпрымальніцтве, а Яна — усе сілы аддала б дзецям, каб выхаваць тых, кім так і не сталі іх бацькі. Вечарамі ж Ён пісаў бы вершыкі на «беларускай гаворцы» і, можа, нават выдаў бы кніжку пад псеўданімам «Яська-гаспадар з-пад Вільні» дзе-небудзь у Кракаве. У такім разе мы згубілі б адзін з самых яскравых эпізодаў айчыннай гісторыі, у якім ёсць так шмат: міф, змаганне, адкрыцці, прыгоды, таямніцы, здрада, але перш за ўсё — Каханне і Самаахвярнасць.

Добра гэта ці не, але Яны — Кастусь і Марыся — з самага пачатку не былі створаны для звычайнага жыцця.



Сям'я Ямантаў: злева направа — маці Схаластыка, дочкі Марыя і Алена, бацька Тадэвуш.

### Знаёмства

Яны сустрэліся на пачатку вясны 1861 года. Каліноўскі атрымаў дыплом аб заканчэнні Пецярбургскага ўніверсітэта і прыехаў уВільню ўладкавацца на працу. Яго суправаджае сябар, якога Кастусь называе не інакш як «палымяны ідэаліст» — Іосіф Ямант.

Каліноўскаму дваццаць тры, ён поўны надзей. 2 сакавіка ён падае заяву ў адміністрацыю генерал-губернатара Назімава. Чакаючы адказу, наведвае сяброў Далеўскіх і прымае запрашэнне ад Ямантаў, якія мелі кватэру на Вялікай вуліцы ў доме Шышкіна.

Яманты — заможная сям'я, вядомая на ўсю Вільню. Бацька Тадэвуш меў вышэйшую юрыдычную адукацыю і высокі дзяржаўны чын надворнага саветніка. Ён кіраваў маёнткамі князя Віттенштэйна, уласніка былых радзівілаўскіх земляў, раскіданых па ўсёй Беларусі і Літве. Маці — Схаластыка, у дзявоцтве Макрыцкая, падаравала мужу чатырох сыноў і чатырох дачок, з якіх толькі старэйшая — Людвіка — тады была замужам за Людвікам Радзевічам, супрацоўнікам яе бацькі.

Каліноўскі з першага ж візіту зрабіўся жаданым госцем у кватэры Ямантаў. Яго шчырасць і апантанасць ідэяй справядлівасці знайшлі асабліва моцны водгук у чулай душы адной з дачок — Марыі.

Марыі было дзевятнаццаць, і яна скончыла прыватны пансіён у Вільні. Там у яе выкладаў таленавіты педагог Аляксандр Здановіч, аўтар падручнікаў і бацька яшчэ аднаго паплечніка Каліноўскага — Ігната, павешанага на мураўёўскай шыбеніцы 21 снежня 1863 года. Марыя ведала замежныя мовы, зналася ў літаратуры і гісторыі. Каліноўскі знайшоў у ёй родную душу, ад якой не мела сэнсу хаваць сваіх пачуццяў.

### На адлегласці ліста

Надзея застацца ў Вільні была разбураная назімаўскай рэзалюцыяй пра «адсутнасць вакансій». Каліноўскі яшчэ не разумеў, што атрыманы ім дыплом — толькі прыступка да лепшага жыцця, білет у якое купляецца цаной хабару ці пратэкцыі.

Але доўга сумаваць ён не збіраўся. Расійская Імперыя перажывала вялізныя змены. Прыходзілі весткі пра першыя наступствы абвяшчэння грабежніцкай аграрнай рэформы, якая ўвайшла ў гісторыю як «адмена прыгоннага права». У кватэры Ямантаў абмяркоўвалі выступленні сялян у маёнтках Віттенштэйна. Каліноўскі бачыў у гэтым прадвесце буры, з якой народзіцца новы свет. Таму ён не мог заставацца ў Вільні. Развітаўшыся са сваёй «чарнабровай Марыськай», ён едзе ў бацькоўскі маёнтак Якушоўка Гродзенскай губерні, каб бачыць змены на ўласныя вочы. У расстанні каханне Кастуся і Марысі гартавалася, падмацаванае рамантычным ліставаннем.

Сусед Каліноўскіх, памешчык Ігнацій Ляскоўскі, прапанаваў Кастусю працу настаўніка сваіх дзяцей. Але пачуў адмову. Каліноўскі выношвае іншыя планы, пра якія не раз ішла гаворка ў пецярбургскіх студэнцкіх гуртках, якія столькі разоў абмяркоўвалі са старэйшым братам Віктарам. Каліноўскі апранае сялянскі кажух і выпраўляецца па вёсках, называючыся Васілём Світкаю. Амаль год ён вандруе, час ад часу вяртаючыся то ў бацькоўскую хату, то ў Гродна, дзе стварае рэвалюцыйную арганізацыю. Год пралятае незаўважна. Першы вынік цяжкай працы — выданне з сябрамі Валерам Урублеўскім і Феліксам Ражанскім першага нумара «Мужыцкай праўды» на пачатку ліпеня 1862 года. Пасля гэтага Каліноўскі з чыстым сумленнем кіруецца ў Кейданы на вяселле сястры яго сябра Далеўскіх Апалоніі і капітана расійскага Генштаба Зыгмунта Серакоўскага, па сумяшчальніцтве аднаго з кіраўнікоў таемнай арганізацыі ў Літве і Беларусі.

У той час, як Каліноўскі гуляў на вяселлі, Яманты ў Вільні каля Вострай Брамы бяруць удзел у маніфестацыі 31 ліпеня 1862 года, на ўгодкі падпісання Люблінскай уніі. Старэйшая сястра Марыі Людвіка пасля той маніфестацыі атрымала 30 рублёў штрафу за «нашэнне крыжа і спяванне забароненых песень».

### Заручыны

Каліноўскі трапляе ў Вільню, уражаны шлюбам Серакоўскага. Відаць, менавіта ў гэты час Марыя Ямант становіцца яго нарачонай. Кастусь у прысутнасці родных уручае пярсцёнак сваёй нявесце. Магчыма, якраз тады заручаюцца і яго сябар Цітус Далеўскі з сястрой Марыі — Аленай Ямант.

Кастусь надоўга не затрымліваецца ў горадзе, і ў сярэдзіне жніўня ад'язджае ў Якушоўку — спаткацца з ужо моцна хворым на сухоты братам Віктарам і падрыхтаваць да выдання другі нумар «Мужыцкай праўды».

Наступнае паўгоддзе — час пастаянных раз'ездаў і рэдкіх спатканняў з Марыяй, напоўненых супярэчлівымі жаданнямі — Асабістага шчасця і ўсеагульнай Праўды. Калі ў кастрычніку памёр Віктар, Кастусь перабраўся ў Вільню. Цяпер ён можа рэгулярна бачыцца з Марыяй.

### Перарваная надзея на вяселле

Надзею на будучае вяселле перарвала неспадзяваная вестка. Пры канцы студзеня 1863 года выбухнула паўстанне ў Польшчы. Многа з таго, што Каліноўскі і яго сябры «чырвоныя» рыхтавалі на вясну з разлікам на шырокі сялянскі ўздым у Беларусі і Літве, «белыя» на чале з Гейштарам паспрабавалі рэалізаваць у Польшчы. Край быў да барацьбы не падрыхтаваны. Але Каліноўскі пастанавіў далучацца да паўстання, бо над іх арганізацыяй ужо навісла пагроза выкрыцця. Марыя падтрымлівае Кастуся ў цяжкай працы, не дазваляе апусціць рукі нават тады, калі «белыя» арганізавалі супраць яго пераварот і адхілілі ад кіраўніцтва паўстаннем. Марыя разам з сёстрамі арганізоўвае жаночы камітэт. Яны збіралі ахвяраванні для сем'яў паўстанцаў, разносілі пошту, клапаціліся пра палонных, перадавалі ў астрог ежу, свежую бялізну, гарбату, цукар, тытунь.

Калі жандары арыштавалі лідараў «белых» Францішка Далеўскага і Якуба Гейштара, а таксама варшаўскага камісара Оскара Авейдэ, кіраванне згасаючым паўстаннем зноў аказалася ў руках Каліноўскага і яго паплечнікаў. Кватэра Ямантаў становіцца фактычна штабам рэвалюцыйнай арганізацыі, дзе звычайнымі гасцямі, акрамя Каліноўскага, былі Цітус Далеўскі, Ігнат Здановіч, Эдмунд Вярыга, Эмануэль Юндзіл, Станіслаў Бухавецкі, Ільдэфонс Мілевіч... Людвіка Радзевіч успамінала іх актуальныя і сёння словы: «Сэрца замірае, калі ўсведамляеш маштабы няшчасця народа, цвет якога растаптаў вораг, а з памяці гэтых святых мучанікаў часам здзекуюцца ўласныя дзеці».

### Штаб-кватэра паўстання

У Ямантаў у канцы ліпеня 1863 года адбылося спатканне Каліноўскага з камісарам варшаўскага Нацыянальнага ўрада Лявонам Главацкім, братам вялікага польскага пісьменніка Баляслава Пруса. Яны спрачаліся. Каліноўскі быў за адасабленне былога ВКЛ ад Польшчы і перадачу зямлі сялянам. Гэтым ён настройваў супраць сябе мясцовых памешчыкаў, не гатовых нават у імя Радзімы ісці на ахвяры.

Апошнія месяцы 1863 года Каліноўскі жыў у чаканні арышту. Ні ўгаворы сяброў, ні слёзы на вачах Марыі не прымусілі яго скарыстацца дасланым з Пецярбурга пашпартам на чужое імя, каб выехаць за мяжу. Кастусь і Цітус Далеўскі даюць адзін аднаму абяцанне, што будуць да канца змагацца за справу, у якую вераць.

### Напярэдадні арышту

У пачатку снежня на кватэру па вуліцы Зарэчнай у Вільні, дзе начаваў Каліноўскі, урываецца паліцыя. Але ён паспявае выслізнуць праз акно ў адной бялізне. Дом аточаны жандарамі, у пакоі ідзеператрус. Ужо каторую гадзіну Каліноўскі ляжыць на даху, узіраючыся ў бездань зорнага неба, забыўшыся на холад, сам-насам з цэлым сусветам.

Колішнія думкі, перажыванні, пачуцці, жаданні, уласны вопыт, чужыя веды і навязаныя каштоўнасці адышлі ў нябыт — яго не існавала. Ён ёсць бессмяротны. Заставалася толькі памерці...

Ператрус даўно скончыўся, у пакоі панавала цішыня, але ён ляжаў на даху, зусім удубелы. Замест ранейшага безупыннага руху думак з'явіўся ўсвядомлены спакой упэўненасці.

Пасля Каліноўскі напісаў сябру Баляславу Длускаму: «Не турбуюся ні аб чым, то праз акно на дах, то іншымі спосабамі з іхніх рук выслізгваю. Пакуль Бог ахоўвае, а калі прыйдзецца павіснуць, дык хай будзе на пацеху ўсім літоўскім панам і прасветлай Маскве».

### Перадсмяротнае ліставанне

Заканчэнне 1863 года азмрочылі смяротныя пакаранні самых верных сяброў: Ігната Здановіча, Мечыслава Дармаоўскага і Цітуса Далеўскага. А ў ноч на 29 студзеня 1864 года ў Святаянскіх мурах быў арыштаваны і Кастусь Каліноўскі. Ён назваўся Ігнатам Вітажэнцам, але былы паплечнік Вітольд Парафіяновіч пад ціскам жандара Лосева выдаў сапраўднае імя. У тую ж ноч арыштавалі і сям'ю Ямантаў, за выключэннем Людвікі, якая жыла асобна.

Кастусь апынуўся пад вартай у былым дамініканскім кляштары, а яго нарачоная Марыя — у будынку насупраць, у былым кляштары місіянераў. Праз вокны яны бачылі месца зняволення адно аднаго. На дапамогу маладым прыйшла цётка Марыі — Ядзвіга Макрыцкая. Людвіка Радзевіч узгадвала пра яе: «Жанчына элегантная, немаладая, адукаваная, добра выхаваная, у сціплым адзенні, яна заўсёды знаходзіла магчымасць пракладваць шляхі там, дзе іншыя не маглі і падступіцца».

Ядзвіга Макрыцкая дала хабар жандарам і змагла наладзіць ліставанне паміж Кастусём і Марыяй. Кожная запіска каштавала 10 рублёў і ў любы момант магла трапіць у рукі палкоўніка Лосева. У адной з запісак да любай Каліноўскі пісаў: «Зайздрошчу свабодзе нават той вароны, якую са свайго акна бачу на снезе».

Менавіта дзякуючы Макрыцкай з камеры нумар тры ў Парыж да аднаго з кіраўнікоў паўстання ў Польшчы Агатона Гілера трапіў невялікі аркуш з перадсмяротным запаветам Каліноўскага, вядомым нам як «Лісты з-пад шыбеніцы».

Разам з Макрыцкай дапамагаў Каліноўскаму і галоўны ўрач раскватараванага ў Вільні Атаманскага казацкага палка, адначасова асабісты доктар турмаў для палітычных зняволеных Карл Фавелін. Ён быў тыповым расійскім інтэлігентам XIX ст., адукаваным і высакародным. Аднойчы ён наведаў Каліноўскага ў камеры і заспеў таго побач з акенцам. Кастусь праз фортку сыпаў на падаконне хлебныя дробкі птушкам. Вераб'і і галубы біліся за ежу, забаўляючы Кастуся. Ён усміхаўся, удыхаў свежае марознае паветра і слухаў гукі аргана, якія даносіліся з касцёла побач. Фавелін быў уражаны: чалавеку вынесена смяротнае пакаранне, а ён працягвае радавацца кожнаму імгненню жыцця. Менавіта Фавелін дабіўся ад старшыні следчай камісіі, каб Каліноўскаму дазволілі штодзённыя чвэрцьгадзінныя шпацыры па кляштарным дворыку.

10 (22) сакавіка 1864 года Кастусь Каліноўскі па загадзе Міхаіла Мураўёва быў павешаны на Лукішскай плошчы. Летам 1864 года яго нарачоная Марыя Ямант разам з бацькамі і сястрой Аленай была высланая ў Табольск. Яна мужна вытрымала сібірскія ўмовы і ў 1874 годзе вярнулася на Радзіму, адкуль перабралася ў Варшаву. Толькі калі памерлі яе бацькі і родная сястра Алена, яна пагадзілася на шлюб з былым паўстанцам Генрыхам Дмахоўскім. Яе не стала 3 верасня 1908 г. Але памяць пра Марыську і Кастуся застаецца ў нашай гісторыі назаўсёды:

Марыська чарнаброва, галубка мая,
Гдзе ж падзелася шчасце
і ясна доля Твая;
Усё прайшло — прайшло
як бы не бывала,
Адна страшэнна горыч
у грудзях застала...



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

# Святы Валянцін

Прыпавесць. Піша **Алесь Ліпай**.

Жыў-быў адзін чалавек.

Харошы такі.

Добры, спагадлівы, шчыры і шчодры.

Як яго звалі, вы ўжо ведаеце, прачытаўшы назву гэтай прыпавесці.

Некаторыя лічаць, што дабро павінна быць з кулакамі. І кулакі ў яго былі — уга якія. А ён ніколі не скарыстоўваў іх як зброю. Праўда-праўда, далоні ягоныя ніколі не сціскаліся ў кулакі.

Мусіце мне паверыць, бо ўжо не зможаце праверыць.

Калі жыццё крыўдзіла, Валянцін тлумачыў сабе, што нечым правініў Бога, і Усявышні такім чынам настаўляе яго на існы шлях.

А шлях гэты ён трактаваў традыцыйна для прыстойнага верніка: не забі, не скрадзі, не схлусі, не пажадай, а любі, дзяліся, сведчы і паважай. І заўсёды падганяў свае дзеянні пад гэтыя правілы. Ды часта прыдзіраўся да сябе: а ці насамрэч думаю так, як сказаў; і ці не прамарудзіў, ускокваючы з лаўкі тралейбуса, калі туды зайшла бабулька; а ці не пажадлівым быў той адзіны позірк, які кінуў на прыгожую дзяўчыну ў натоўпе?

Валянцін не паліў, але заўсёды насіў з сабой цыгарэты і запальнічку. Таму, калі да яго чапляліся на вуліцы, ён з гатоўнасцю даваў прыкурыць і пакурыць, без крыўды аддаваў апошнія грошы і нават шапку пры адпаведным надвор'і. Яго ўрэшце ўсё адно білі, а ён намагаўся ўсміхацца, лежачы на брудным асфальце ці ў гурбе, і думаў: вось выльюць зараз хлопцы на мяне злосць — і нікога сёння на вуліцы больш не зачэпяць. А тыя ад гэтай усмешкі ўваходзілі ва ўсё большы шал і прыгаворвалі:

— *Іш, святоша нашолся!*

Пасылаць яго ў краму трэба было па тое, што спатрэбіцца не раней як заўтра, бо ён праводзіў там гадзіны, і не заўсёды мог патлумачыць, чаму так доўга. А справа ў тым, што Валянцін абавязкова саступаў сваю чаргу тым, у каго ў руках было мала пакупак, старэйшым жанчынам, людзям з дзеткамі, нават калі дзеткі былі ўжо вышэйшыя за яго, і ўвогуле кожнаму, хто казаў, што спяшаецца. Ну, сапраўдны джэнтльмен! *«От, дзякуй, добры чалавек!»* — чуў ён іншы раз, і сэрца ягонае перапаўнялася пяшчотай да людзей.

Кар'ера не складалася, сядзеў ён ужо гадоў з дваццаць малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце дабрыні Нацыянальнай акадэміі навук, хаця ягоныя равеснікі, менш абцяжараныя маральнасцю, ужо выбіліся ў начальнікі або з'ехалі ў замежныя інстытуты на лепшыя заробкі. Пару разоў начальства пыталася, як бы ён паставіўся, калі б яго прызначылі намеснікам загадчыка аддзела па справядлівым размеркаванні месцаў пад сонцам, але ён чырванеў і казаў, што ягоны напарнік, які толькі прыйшоў у інстытут па размеркаванні, больш заслугоўвае такой пасады. Начальства паблажліва ляпала па плячы, дзякавала за сумленную працу і за добрую параду, а як толькі за ім зачыняліся дзверы, круціла пальцам каля скроні:

— *Не ўсіх дурных вайна пабіла!..*

Адзіны ягоны сябра, Валодзька Шабаноў, раз на месяц завітваў у госці, каб пазычыць грошай да палучкі, і, п'ючы ў Валянціна на кухні ягоную гарэлку, купленую адмыслова на выпадак, калі прыйдзе найлепшы сябар, ушчуваў яго за залішнюю дабрыню:



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

— *От ты жывеш ужо за сорак гадоў на свеце, а чаго дамогся? Кватэра табе дасталася ад бацькоў, жонка гуляшчая, дзеці прыходзяць дадому толькі начаваць, гарэлку купляеш мярзотную, абы танней, касцюм у цябе ўсяго адзін, і той носіш ужо дзясяты год... Дзеля чаго жывеш?*

Валянцін маўчаў, толькі добра ўсміхаўся, а сам сабе думаў: ну як жа ж! Вунь сябар у яго ёсць, і дзеткі, як малыя былі, казалі, што любяць, і праца якая-ніякая, не сядзіць жа сям'я галодная, і жонка не ў абносках ходзіць. А калі і завяла сабе нейкага палюбоўніка, дык што ж, Валянцін не прыгажун, талентаў асаблівых не мае... Добра яшчэ, што каханая не кідае яго і з хаты не выганяе.

— *Дурань ты!* — які ўжо раз рабіў выснову сябрук і перакульваў чарговую чарку.

Мо з-за боязі кпінаў з яго боку Валянцін і не прызнаваўся ніколі, што трымае галубоў. Гадоў за пяць ён употай ад жонкі заашчадзіў дастатковую суму, змайстраваў на суседнім гмаху галубятню, купіў колькі пар звычайных шызых галубоў, а ў кампанію да іх — двух белых турманаў і столькі ж рыжых якабінаў. І вось цяпер іх было ўжо больш за трыццаць, пароды перамяшаліся і далі столькі варыянтаў!

О, як ён любіў ганяць іх надвячоркам! Калі сонца ўжо невысокае і ашчаднае на прамяні. Глядзець, як з першым гукам ягонага свісту птушкі ўспырхваюць амаль вертыкальна ўверх і, падхопленыя ўзыходзячымі плынямі паветра, кружаць у велізарным, кранутым чырванню віры... Валянцін сам нібыта пакідаў дах і аказваўся з імі, крыло ў крыло, — гэтакія пачуцці ахаплівалі яго!

Але галубы не здольныя да доўгага палёту. Пакружыўшыся над мікраёнам, птушкі вярталіся на родны дах, паслухмяна залаталі ў галубятню і доўга ўзбуджана буркавалі.

Валянціну таксама трэба было вяртацца на зямлю, да любай жонкі, бо зрання ж на любімую працу...

А назаўтра былі не толькі праца, а і прыкрае здарэнне. Узняўшыся на дах суседняга гмаха, Валянцін заспеў, як нейкія з выгляду бяздомнікі жалезным прутам уломвалі дзверцы галубятні і запіхвалі ягоных птушак у зрэбны мех.

— *Людцы, што вы робіце!* — кінуўся да іх Валянцін, не сціскаючы далоні ў кулакі.

Мужчыны спужана азірнуліся, а адзін з іх са страху трэснуў прутам Валянціна па галаве. Той войкнуў, грымнуўся патыліцай аб кут галубятні і знерухомеў. Бамжы яшчэ больш перапалохаліся, нехта з іх свіснуў — маўляў, рукі ў ногі! — і яны кінуліся наўцёкі, не забыўшыся, аднак, прыхапіць мех з ужо ўпаляванай здабычай.

Валянцін застаўся на даху, прыхіліўся плечуком да галубінай хаткі. Успуджаныя птушкі кружылі высока над ім, уздымаючыся ўсё вышэй і вышэй, нібы ў велізарным віры.

Валянцін глядзеў на іх адзіным не заплыўшым крывёй вокам, і кранутыя лёгкай усмешкай вусны шапталі:

— *Птушкі мае, птушкі, скіньце па пяры, я з вамі палячу...*

Наўкол яго валялася шмат галубіных пёраў, страчаных птушкамі ў бойцы з галоднымі драпежнікамі, і некаторыя з іх ужо набрынялі чалавечай крывёй. Хоць ты бяры і малюй імі апошні прыжыццёвы партрэт чалавека.

Харошага такога.

Добрага, спагадлівага, шчырага і шчодрага.

...Праз пару дзён, калі бамжы даелі злоўленых галубоў і вярнуліся па новых, незачыненыя ў клетцы птушкі ўспырхнулі пры першых жа кроках паляўнічых. Тыя зазірнулі ў галубятню, не знайшлі там птушак і абступілі Валянціна. Твар яго быў ужо ўшчэнт раскляваны.

— *Можэт, его раздзелаем?* — кінуў адзін з мужчын.

— *Ты што, ахрэнел? Саўсем ужэ мазгі атпіл?* — накінуўся на яго сябрук. — *Пашлі атсюда!*

Унізе, ля падножжа гмаха, ён падышоў да бабулькі, што сядзела на лаўцы ля пад'езда, са словамі:

— *Там на крышэ вашэва дома труп.*

— *Га?* — перапытала яна, не расчуўшы з першага разу.

Але бомж нават не азірнуўся, падбегам даганяў напарніка.

* * *

Хавалі Валянціна праз два дні.

Хавалі нават ад позіркаў занадта цікаўных суседзяў, у закрытай труне.

Святы быў чалавек, казалі над магілаю.



## Святлана Куль

Снягі цякуць, пацокваюць капежам,
Нібы аркестр званочкаў ды званоў.
Зварылі зайцы піва на памежжы:
Нясуць вятры аднекуль з Белавежы
Туман знаёмы — з нашых туманоў.
Не дымам пахне нашая Айчына,
Я гэты водар пазнаю здалёк:
Туман ідзе ад бровараў зайчыных,
Пах ялаўца, ды мёду, ды каліны
Нясе з сабой у польскі Беласток.

*29.01.16.*


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Наста і Зміцер Дашкевічы ўжо 8 месяцаў чакаюць другое дзіця. Інфармацыя пра гэта старанна хавалася імі, але на сяброўскай «Вечарыне адкрыцця» 6 лютага ў суботу яны амаль афіцыйна абвесцілі пра гэта. Пол другога дзіцяці ў сям'і Дашкевічаў «паведамляў» торт. Гэтая традыцыя з'явілася не так даўно ў ЗША, але ўжо дастаткова добра прыжылася. Лекар, які робіць УГД, не паведамляе пол дзіцяці будучым бацькам, а піша яго на паперцы і запячатвае ў канверт. Будучыя бацькі аддаюць яго пекару, які павінен прыгатаваць торт. Калі начынка торта ружовая, будзе дзяўчынка. Калі блакітная — хлопчык. У Дашкевічаў начынка была блакітнай.**



МІКІТА НЕДАВЕРКАЎ

**Чацвёрты рэстаран KFC у Мінску адкрыўся на Нямізе. Вось так амерыканскія брэнды ўпісваюцца ў савецкую архітэктуру Мінска.**

**Клуб «Дэнвер Бронкас» атрымаў перамогу ў юбілейным, 50-м, «Супербоўле» — галоўным матчы сезона амерыканскай Нацыянальнай футбольнай лігі. За «Дэнвер» выступае 39-гадовы Пэйтан Мэнінг — легенда амерыканскага футбола. Гэта адзіны спартсмен, які пяць разоў прызнаваўся найлепшым гульцом сезона ў НФЛ. Мэнінга ўсе спісалі з рахункаў за апошнія сезоны, а ён даказаў, што яшчэ здольны на многае.**



**У мінскім Цэнтры акіянаграфіі вылупілася акуляня. Дзіця акулы з'явілася на свет з яйка, якое прывезлі з Калінінграда. Праз гэта рыбіна атрымала імя Балтыка — яго прыдумалі яшчэ да нараджэння. Цяпер 9-сантыметровае акуляня асвойваецца ў адным з акварыумаў.**



**Сурок Філ з горада Панксатоні, штат Пенсільванія, прадказаў раннюю вясну. На штогадовай цырымоніі прадказання тэрміну заканчэння зімы сурок выпаўз з нары і не ўбачыў свайго ценю. Гэтай традыцыі ўжо 130 гадоў.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Вы як працуеце, так і зарабляеце!

— Мы як зарабляем, так і працуем!

* * *

Толькі ў Беларусі выраз «Ты выглядаеш на мільён» з'яўляецца абразай.

* * *

Адна дзяўчынка хацела выйсці замуж па разліку, але не змагла. Яна гуманітарый.

* * *

На прыёме ў псіхолага:

— Скажыце, а як паступіць з чалавекам, які ўвесь час робіць мне брыдоту?

— Напішыце яму ліст з прэтэнзіямі і спаліце.

— Зразумела... А з лістом што рабіць?..

* * *

Дзелавая перапіска — гэта калі замест «Трындзец, вы тут усе афігелі», пішаш «Добры дзень, у мяне ёсць некалькі каментароў па гэтым пытанні».

## Наўмысна не прыдумаеш

### Яшчэ раз пра «тэатралаў»

Ліцэісты Гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа пратэстуюць каля будынка, патрабуючь пакінуць яго за ліцэем.

Пад'язджае начальнік міліцыі грамадскай бяспекі Мінгарвыканкама і да ліцэістаў:

— Дзе Якуб Колас? Паклічце.

— Дык няма яго.

— А дзе ён.

— Памёр.

— А хто акцыю арганізуе? Паклічце яго брата.

**Таццяна Р.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Хоцімск.** У нашых ваколіцах вялікі недахват пашы; сяляне, не маючы чым карміць, выводзяць і самі забіваюць коней на скуру. Страшэнныя часы, — і сам сабой прыходзіць на мысль смутны жарт цыгана, каторы на запытанне гаспадара, чаму цыган прадаў яму каня, каторы не хоча саўсім есці, адказаў: «Дык хіба гэта дрэнны конь? Як на цяперашнія часы, такі конь, па-мойму, найлепшы». Горкая праўда!

**«НН». №6. 1911.**

**Златка, луста і хадун.** Сетка бістро «Хуткасмачна» беларусізавала назвы сваіх прадуктаў. Луста — той самы бутэрброд, толькі тут гэта луста хлеба з салам ці паляндвіцай. Проста і па-наску. Хадун, ці хот-дог, назвалі так, бо есці можна ідучы. З'еў — і хадзі цэлы дзень!

**«НН». №6. 2006.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 09.02.2016.
Замова №397.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614


9 771819 161008 16006